

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 15 верасня 1989 г. № 37 (3499) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**






Глеб ЕРАМЕЕЎ, выкладчык Мінскага радыётэхнічнага інстытута, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Гутарку з ім чытайце на 2-й і 3-й старонках.

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# Збірае «Іслач»

**Цікавыя дадзеныя прамільгнулі ў адным з апошніх нумароў штотыднёвай газеты «Книжное обозрение». Аказваецца, у нашай краіне справы з перакладамі абстаяць далёка не так, як лічылася дагэтуль. Сапраўды, перакладных кніг штогод выпускаецца шмат, але гэта ў асноўным пераклады, якія робяцца, так сказаць, унутры Савецкага Саюза. Замежная ж літаратура на мовы народаў СССР пераўвасабляецца вельмі і вельмі рэдка.**

**Чытачы «ЛіМа», бадай, ужо заўсміхаліся. У нас нават і гэтым пахваліцца нельга. Хоць у апошні час і зроблены значныя зрухі, тым не менш... Па-ранейшаму нямала перакладаў робіцца з мовы-пасрэдніка, у дадзеным выпадку—рускай. І па-ранейшаму за межамі рэспублікі не шмат людзей, якія ведаюць беларускую мову, каб перакладаць з арыгінала.**

**Тым больш важныя практычныя захады, якія робіць Саюз пісьменнікаў БССР праводзячы семінары перакладчыкаў беларускай літаратуры. Чарговы з іх адкрыецца неўзабаве ў Доме творчасці «Іслач».**

**Аб праграме семінара перакладчыкаў беларускай літаратуры на мовы народаў СССР наш карэспандэнт папрасіў расказаць сакратара праўлення СП БССР Васіля ЗУЕНКА.**

— Семінар будзе праходзіць з 21 верасня па 2 кастрычніка. На яго запрошаны прадстаўнікі амаль з усіх саюзных рэспублік, усяго чакаем каля трыццаці гасцей. Сярод іх, мяркуецца, будуць У. Гардзейчаў, П. Кошаль, Т. Каламіец, Р. Лубкіўскі, Т. Руліс, А. Пухаеў і іншыя, хто ўжо добра зарэкамендаваў сябе на перакладчыцкай ніве, шмат робіць, каб беларускае мастацкае слова хораша гучала на іншых мовах. У семінары прымуць таксама ўдзел і тыя, хто толькі яшчэ пачынае займацца перакладам і вырашыў рабіць гэта менавіта з беларускай мовы.

Думаецца, што ўдзельнікам семінара дадуць карысць лекцыі, якія прачытаюць вядомыя беларускія мовазнаўцы і літаратуразнаўцы. Плануецца правесці сустрэчу з членамі секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей на чале са старшынёй бюро секцыі В. Рагойшам. У праграме семінара—гутаркі з вядомымі нашымі пісьменнікамі, паездкі на радзіму нашых народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа—у Вязынку і Мікалаеўшчыну, наведанне Хатыні.

Заключным акордам семінара стане ўдзел нашых сяброў-літаратараў у рэспубліканскім свяце паэзіі, якое пройдзе на радзіме Аркадзя Куляшова і будзе прысвечана 75-годдзю з дня нараджэння паэта.

## Гутарка аб надзённым

Самы шырокі спектр пытанняў закранаўся на сустрэчы журналістаў з загадчыкамі аддзелаў Цэнтральнага Камітэта КПБ, якая адбылася 13 верасня ў Доме палітычнай асветы Мінскага абкома партыі. Гэта і маючыя адбыцца выбары ў Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы, пераарыенціроўка эканомікі пераважна на вырашэнне сацыяльных праблем, умацаванне правапарадку, барацьба са злоўжываннямі ў дзяржаўным і кааператыўным сектары гандлю і абслугоўвання насельніцтва. Натуральна, што кожная праблема разглядалася перш за ўсё скрозь прызму партыйнага кіраўніцтва перабудовай.

**БЕЛТА.**

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ГАЛАСАВАЎ СУПРАЦЬ

**Гутарка з дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР Глебам ЕРАМЕЕВЫМ**

**— Шчыра кажучы, тыя, апошнія выбары ў вышэйшы орган улады рэспублікі ў памяці не засталіся. За адным, праўда, выключэннем. Не было, відаць, тады газеты, якая б не адзначыла, што ў Вярхоўны Савет БССР абраны студэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута Глеб Ерамееў. Студэнт-дэпутат! Колькі вам было тады гадоў?**

— Дзевятнаццаць.

**— Усё гэта было для вас, відаць, нечаканым?**

— Так. З лекцыі мяне выклікалі ў партком інстытута і, нічога не тлумачачы, папрасілі запоўніць нейкія анкеты. Пасля пачалі распытваць пра сям'ю, бацькоў, правяраць маю палітычную свядомасць. Нарэшце, усё-такі растлумачылі, што, маўляў, ёсць думка прапанаваць маю кандыдатуру для выбараў у Вярхоўны Савет, і папыталіся, як я да гэтага пастаўлюся. Я адказаў, што згодны.

**— Вы не задумваліся тады, чаму выбар выпаў менавіта на вас?**

— Не такім ужо быў я цялём, каб не думаць пра гэта. Відаць, у высокай інстанцыі пры накідзе персанальнага складу будучага Вярхоўнага Савета вырашылі на гэты раз мець сярод дэпутатаў і прадстаўніка студэнцтва. Чаму выбралі менавіта радыётэхнічны інстытут? Яму акурат споўнілася 20 гадоў, юбілей гэты шырока адзначаўся. Ну, а на маёй персоне спыніліся, думаю, таму, што я падыходзіў па сваіх анкетных дадзеных. Патрэбен быў студэнт, не першакурснік і не выпускнік, а я вучыўся тады на трэцім курсе. Вядома ж, камсамолец. Меў грамадскія даручэнні — быў старастам групы. Адпаведнага паходжання — бацька мой рабочы. Па нацыянальнасці — рускі. І ў гэтым, відаць, падыходзіў — не сакрэт, што Вярхоўны Савет фарміраваўся, зыходзячы і з пэўных квот прадстаўніцтва той ці іншай нацыянальнасці.

**— Цяжка было змагацца за дэпутацкі мандат?**

— Змагацца? Усё ішло па звыклым сцэнарыі. Чатыры разы сустракаўся з выбаршчыкамі, якія тут, на перадвыбарчым сходзе, упершыню ў жыцці ўбачылі свайго кандыдата і пачулі яго прозвішча. Бачыў я па іх тварах, што ўсё ім да лямпачкі. Ды і чым я іх мог зацікавіць, прывабіць? Біяграфіяй, якую расказала мая давераная асоба? З перадвыбарчай праграмай, як цяпер, тады кандыдаты ў дэпутаты не выступалі, пра што гаварыць з народам, не ведалі. Вы ж, напэўна, памятаеце — кандыдаткі-даяркі абяцалі надаіць больш малака, будучыя дэпутаты з рабочых расказвалі, як яны змагаюцца за выкананне і перавыкананне абавязацельстваў...

Але, ведаеце, я быў бы няшчыры, каб сказаў зараз, што выбарчая сістэма ўразіла мяне сваёй недэмакратычнасцю, казёншчынай, фармалізмам, іншымі заганамі, якія сёння здаюцца мне такімі відавочнымі. Тады я пра гэта асабліва не думаў. Па-першае, жыцця як след яшчэ не ведаў, па-другое, выхаваны быў (ды хіба адзін я) у цвёрдай упэўненасці, што наша дэмакратыя — самая лепшая ў свеце.

Прайшлі выбары. Прагаласавала за мяне 99 працэнтаў выбаршчыкаў... Так я стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета.

**— Можна ўявіць, з якім хваляваннем вы ішлі на першую сесію...**

— Шчыра кажучы, я не адразу зразумеў, у чым сэнс усёй гэтай працэдуры. Ну сабраліся, ну паслухалі некалькі доўгіх дакладаў, аднагалосна прагаласавалі, хоць уцяміць, пра што ў іх гаварылася, было цяжка нават мне, чалавеку з незакончанай вышэйшай адукацыяй. Адзінае, што запомнілася на той сесіі Вярхоўнага Савета, дык гэта ярка асветленая юпіцерамі тэлевізіёншчыкаў сцэна Дома афіцэраў, дзе яна праходзіла (у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ў Доме ўрада ў той час ішоў рамонт).

**— Вы, мабыць, адразу адчулі важкасць дэпутацкага звання, адказнасць перад сваімі выбаршчыкамі...**

— Ведаеце, я доўгі час не ўяўляў, як мне іграць сваю ролю. Было такое адчуванне, што цябе кінулі ў ваду — плыві...

**— Думаю, што выбаршчыкі вас не пакінулі ў спакоі: у кожнага столькі праблем, куды ж з імі ісці, як не да дэпутата...**

— Адвялі мне пакой у адным з райвыканкомаў, прызначылі гадзіны прыёму. Пачаў прымаць наведвальнікаў. Скаргаў было шмат. Кагосьці абышлі пры размеркаванні кватэр, хтосьці ніяк не можа ўладкавацца на працу, іншы скардзіцца на несправядлівае рашэнне суда... Чым рэальна я мог ім дапамагчы? Хіба што адправіць скаргу ў адпаведную інстанцыю, падмацаваўшы яе сваім дэпутацкім званнем.

Зрэшты, я не ўпэўнены, што дэпутат Вярхоўнага Савета павінен выбіваць для сваіх выбаршчыкаў кватэры, тэлефоны, дошкі, шыфер... У першую чаргу ён — заканадаўца. Я вось цяпер чытаю, што народныя дэпутаты СССР атрымліваюць ад сваіх выбаршчыкаў цэлыя мяхі разнастайных скаргаў. Думаю, што нават самыя чулыя, сумленныя, самыя прагрэсіўныя з іх пры ўсім жаданні наўрад ці змогуць тут нечым дапамагчы. Потым, так і не прыняты пакуль што Закон аб статусе народнага дэпутата. Вызначаны апошняй сесіяй Вярхоўнага Савета СССР штат супрацоўнікаў народнага дэпутата ў колькасці двух чалавек — мізэрны... Ды і заклікі, скажам, таго ж старшыні Савета Нацыянальнасцей Р. Н. Нішанава эканоміць грошы на народных дэпутатах я лічу пэўнай тэндэнцыяй, накіраванай на стрымліванне дэпутацкай ініцыятывы.

Вярхоўны Савет павінен складацца з прафесійных палітыкаў — юрыстаў, эканамістаў, палітолагаў па адукацыі, якія б былі ў стане разабрацца ў любым законапраекце. А ў нас што? Мы ганарымся, што ў Вярхоўным Савеце рэспублікі шмат калгаснікаў, рабочых. Пры ўсёй маёй глыбокай павазе да іх, лічу, што з многіх заканадаўцаў не атрымалася.

**— Але ж на сесіях прымаюцца законы, зацвярджаюцца бюджэты. Заўсёды аднагалосна. Цікава, ці было калі-небудзь, каб нехта прагаласаваў супраць?**

— Адзіным такім чалавекам быў я. На пазамінулай сесіі прымалася пастанова мандатнай камісіі аб зацвярджэнні вынікаў дадатковых выбараў дэпутатаў. Замест тых, што выбылі. Вы ж, напэўна, памятаеце — выбары новых дэпутатаў былі не альтэрнатыўнымі, за кожнага прагаласавала 99 працэнтаў выбаршчыкаў. Як у старыя застойныя часы, хоць на дварэ стаяў 1988 год і па ўсёй краіне ва ўвесь голас гаварылася аб перабудове палітычнай сістэмы, дэмакратызацыі нашага жыцця. Я прагаласаваў супраць гэтай пастановы. Адзін з 485 дэпутатаў.

**— Як на гэта рэагавалі вашы калегі ў Вярхоўным Савеце?**

— Па зале пасяджэнняў пракаціўся гул, усе павярнулі галовы ў мой бок, на многіх тварах было неўразуменне. Ведаеце, як ні смешна ўсё гэта гучыць зараз, а тады мне трэба было пэўным чынам пераадолець сябе. Было ж гэта задоўга да прыняцця Закона аб выбарах народных дэпутатаў, нарэшце, да З'езда народных дэпутатаў СССР, дзе ўсё-такі панаваў плюралізм думак.

Наогул, на тым пасяджэнні адбылося, мо ўпершыню, рэзкае сутыкненне думак. Слова ўзяў адзін дэпутат — прадстаўнік дзяржаўнага апарату, і пачаў лаяць Алеся Адамовіча, абвінаваціўшы пісьменніка ў зняважзе беларускага народа. Яму бурна апладзіравалі. Пасля выступіў вядомы наш скульптар Анатоль Анікейчык, які рэзка абвергнуў прамоўцу. Яму паапладзіравалі тры-чатыры чалавекі, у тым ліку і я. Я таксама папрасіў слова, адразу падкрэсліўшы, што цалкам далучаюся да ўсяго сказанага Анікейчыкам. Потым растлумачыў, чаму галасаваў супраць пастановы мандатнай камісіі. Сказаў, што мы ў Вярхоўным Савеце ідзём не ў нагу з перабудовачнымі працэсамі, якія адбываюцца ў краіне. Яшчэ два гады назад на адной з сесій Вярхоўнага Савета, дзе абмяркоўвалася пытанне аб узмацненні ролі мясцовых Саветаў, я падаў у пісьмовай форме запытанне Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. Таразевічу, чаму на толькі што прайшоўшых выбарах у мясцовыя Саветы партыйныя і савецкія работнікі балаціраваліся без альтэрнатыўных кандыдатур. Я бачыў, што запіску Георгій Станіслававіч прачытаў, але адказу я так і не дачакаўся. Сказаў я і пра тое, што нашай рэспубліцы, якая мае неблагія эканамічныя паказчыкі, сорамна цягнуцца ў хвасце палітычнага развіцця краіны.

Сышоў я з трыбуны сярод мёртвай цішыні, праўда, калі сядаў у сваё крэсла, пачуў ззаду іранічнае: «А апладысментаў не зарабіў».

Так, не зарабіў... Хоць, ведаеце, у перапынку некалькі чалавек падыходзіла да мяне, паціскалі руку...

Усё, што я расказаў, сямутаму можа падацца дробяззю, але ў гэтай «дробязі», як у фокусе, сканцэнтраваліся норавы, народжаныя яшчэ сталінскай эпохай. Дзякуй богу, што лёд пакрысе кранаецца. Толькі каб не паслабнуць цёплым вятрам.

# СУСТРЭЧЫ І СПРЭЧКІ НА МАТОРНЫМ

**На днях па ініцыятыве Партызанскага райкома КПБ горада Мінска, а таксама парткомаў Мінскага маторнага завода і Саюза пісьменнікаў БССР было наладжана наведванне літаратарамі гэтага прадпрыемства. Адрас выбраны невыпадкова. Маторны завод, пачынаючы з 1966 года, больш за сорак разоў выходзіў пераможцам ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве сярод адпаведных прадпрыемстваў, а ў 1980 годзе развіццё вытворчасці і міжнароднае супрацоўніцтва ўдастоены міжнароднай прэміі «Залаты Меркурый».**

**Знаёмства з прадпрыемствам пачалося без параднасці. Праўда, не да «фанфар» было не толькі па той прычыне, што зусім іншы час наступіў. Зборачны цэх завода стаяў. Як высветлілася, падобная карціна становіцца ледзь не нормай. І не па віне маторнікаў. Падводзяць сумежнікі, на гэты раз адэсіты, якія не паставілі своечасова паршнявых кольцаў.**

**Брыгадзір зборачнага цэха Уладзімір Кобызаў не хаваў абурэння: «Чорт ведама што робіцца. Дайшло, што з Адэсы заяўляюць: прысылайце сваіх рабочых на завод. Яны будуць працаваць, а мы вам кольцы пастаўляць. Свае ж рабочыя разбегліся... у кааператывы. Не ведаю, ці пабеглі рабочыя з Чаплыгінскага завода цэнтрыфуг, Ногінскага насоснага, але малюнак той самы. Не атрымліваем своечасова неабходныя дэталі. Асобныя з іх у экстранным парадку вымушаны даставіць на самалёце. У невялікай колькасці, каб хоць неяк выратаваць становішча».**

**Трывога Уладзіміра Ігнатавіча зразумелая. Кадравы рабочы, мае пяты разрад — можа выконваць любую аперацыю на зборцы, такіх людзей на маторным не шмат, а тут нервовасць. Ды і іншыя працаўнікі незадаволены. Дзень-другі ходзяць без работы, а потым неабходна навёрстваць упушчанае.**

**Сапраўды, проста ўсё на паперы пішацца, яшчэ лягчэй гаворыцца, а праблемы былі, праблемы застаюцца. Да старых дабаўляюцца новыя. Пра іх адкрыта гаварылі літаратарам генеральны дырэктар аб'яднання «Мінскі маторны завод» І. Вераб'ёў і сакратар парткома маторнага завода С. Буко, якія знаёмілі з прадпрыемствам. Паказвалі паліклініку, душавыя, сауну, магазін, у якім для рабочых прадаюцца тавары, набытыя за валюту... Клопат аб рабочым чалавеку тут у цэнтры ўвагі.**

**Аднак ёсць і зваротны бок так званага медаля. Не, яго ніхто не хавае, але ж у паўсядзённасці будняў далёка не кожны пра гэта і здагадваецца. Скажам, яшчэ тады, калі камандная сістэма была адзінай, зладжанай сілай, навязалі Мінскаму маторнаму заводу філіял... Дзе б вы думалі... У Стоўбцах? Ад Мінска не так далёка. Апраўдана, што і Барысаўскі завод агрэгатаў уваходзіць у аб'яднанне «Мінскі маторны завод». Але ж будуецца яшчэ Ташкенцкі маторны завод, які ўвойдзе ў гэтае ж аб'яднанне. Хочаш — смейся, хочаш — плач...**

**Тут жа на прадпрыемстве адбыўся своеасаблівы «круглы стол» з удзелам завадчан і літаратараў. Па праўдзе кажучы, гаворка атрымалася не «акругленая». Не абышлося і без эмоцый, якія далі аб сабе знаць з абодвух бакоў. Зрэшты, гэта можна растлумачыць тым, што праблемы абмяркоўваліся надзвычай вострыя, балючыя, па якіх у грамадстве пакуль што няма адзінства. Дэмакратыя і дысцыпліна, адносіны да грамадскіх ініцыятыў і рухаў, становішча з беларускай мовай,— вось далёка не поўны пералік тэм, вакол якіх ішла гаворка. У ёй прынялі ўдзел сакратар партбюро СП БССР Г. Пашкоў і старшыня Савета працоўнага калектыву завода А. Баравік, начальнік лабараторыі М. Крывашэева і паэт А. Русецкі... Прынялі ўдзел у сустрэчы першы сакратар Партызанскага райкома партыі А. Герасіменка, сакратар райкома партыі В. Хаткевіч, інструктар райкома Л. Пастарнакевіч.**

**НАШ КАР.**



# ПРАВА НА БУДУЧЫНЮ

**13 верасня ў галоўным корпусе БДУ адбылася сустрэча кіраўнікоў БНФ «Адраджэнне», створанага пры ім камітэта «Дзеці Чарнобыля», народных дэпутатаў СССР і беларускіх навукоўцаў — аўтараў канцэпцыі адсялення з зоны так званага «жорсткага кантролю» (з тых мясцін Гомельшчыны і Магілёўшчыны, дзе радыеактыў-**

# Каму судзіць Манучарава?

**...Па шырокай вуліцы паволі рухаецца бясконцы паток людзей, узняўшых высока над галовамі партрэты пажылога самавітага мужчыны і лозунгі на армянскай і рускай мовах: «Свабоду Манучараву!..» Гэта кадры з відэафільма аб маніфестацыях і мітынгах жыхароў Сцепанакерта, арганізаваных у знак салідарнасці з лідэрам народнага фронту Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласці («Крунк») А. Манучаравым, арыштаваным летась органамі МУС СССР. Паказвалі фільм у Мінску жонка і сястра Аркадзія Манвелавіча, яго сябры, паплечнікі па «Крунку» на склікананай імі прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў Доме кіно.**

**Вы спытаеце, чаму раптам у**

**Спадзяёмся, што чытачы нашага штотыднёвіка звярнулі ўвагу на анкету аддзела крытыкі, у якой прымаюць удзел прадстаўнікі розных жанраў. Першымі адказвалі на пытанні празаікі, потым паэты. Бадай, найбольш актыўны і «грунтоўны» ўдзел прынялі ў лімаўскай анкеце крытыкі — як старэйшыя, так і маладыя. У трох нумарах запар, пачынаючы з 18 жніўня, сваімі меркаваннямі пра стан крытычнай думкі і перспектывы развіцця ўсёй беларускай літаратуры дзяліліся І. Афанасьеў, Д. Бугаёў, І. Багдановіч, І. Жук, А. Сідарэвіч, С. Дубавец, А. Сямёнава, Т. Чабан.**

**Сёння мы друкуем артыкул У. Калесніка, у аснову якога таксама пакладзены адказы на пытанні нашай анкеты, і такім чынам абагульняем, завяршаем гаворку.**

**У наступных нумарах «ЛіМа» слова возьмуць публіцысты.**

**Уладзімір КАЛЕСНІК**



# АБНАВІЦЦА ДУХАМ

ЖАНРАВЫЯ міжусобіцы, пытаннем пра якія пачынаецца анкета «ЛіМа», — гэта, на маю думку, вынікі страты ў самім літаратурным асяроддзі адчування спецыфікі і складанасці творчай працы, бесклапотнасці да зніжэння статуса пісьменніка ў грамадстве, спаду прэстыжнасці і цаны літаратурнага прафесіяналізму, зразумела, коштам павышэння вартасці арганізацыйна-кіруючай работы, любой распарадчай работы. З палітычнай і гаспадарскай сферы ў літаратурна-творчую перанесліся сны пра ўладу і сілавыя камандныя формы зносін, заідэалагізавалася разам з іншымі галінамі вытворчасці прадукцыя духоўных даброт. Рэпрэсіўнае ўздзеянне на творчую інтэлігенцыю стала звычаем, свабода творчасці — падазронаю тэмай для гаворкі.

Творчае асяроддзе за горкія ліхалецці абабілася, звыклася з пануканнем, зацугліваннем, патузваннем лейцамі. Заюхленаму выбоіне-каню галоўнае не брыкацца, бо пойдзе ў работу бізун. Асцерагаліся, а субстанцыя крыўды накоплівалася, нарастала патрэба разрадзіцца. Бітым карціць знайсці не ворага, а імідж, пудзіла канаплянае або хлопчыка для лупцоўкі. Псеўдавораг знайшоўся ў асобе крытыкі. крытыка — страхапуд. Крытык стаў успрымацца мастакамі слова двайніком ідэалагічнага рэпрэсіўніка, самадурнага чыноўніка, які дазваляў твору жыць або па сваёй прыхамаці скарачаў яго век і псаваў жыццё аўтару. У адрозненне ад ворага сапраўднага, дужага і недаступнага для пакарання, двайнік быў пад рукою, дазваляў агрызнуцца, сагнаць набалелую крыўду і злосць. Крытык стаў для мастака рупарам выдавецкага ключніка ад раю і затоенага ў кокане бюракратычнай павуціны, непрыступнага безыменнага цэнзара, якога ніхто не бачыў у твар, акрамя хіба тых смелых выдавецкіх работнікаў, што пры дырэктарстве М. Дубянецкага набіраліся рызыкі, і, падбадзёраныя шэфам, хадзілі ў цэнзуру паспрачацца за інтарэсы аўтараў. Крытык не заступаўся і не хадзіў, таму быў ідэальным прывідам ворага. Акрамя сказанага, на сваю бяду, ён быў яшчэ і сваяком па пяру паэту, абавязаным ратаваць усіх родзічаў з бяды. Але ў самыя злавесныя часы крызісу «Маладняка», паношання «БелАПаўскай» клікі, развялося ў Беларусі сярод крытыкаў нямала гіцляў, рэпрэсіўнікаў, рэцэнзіі і артыкулы якіх сталі публічнымі даносамі (вясёлы жанравы сімбіёз!). Па выгляду і падабенству такіх «герояў» стварыўся сатырычны вобраз крытыка. Як бы для нейтралізацыі ў гады застою крытыка выставіла на авансцэну постаць алілуйшчыка, неперабарлівага і ўсеяднага, шалапута і канфарміста. Гэты раздражняў сваім тандэтным кадзілам густы пісьменніцкай эліты.

У маладыя гады я крыўдаваў на бясконцае абрыджванне крытыкі, не прымаў воклічаў «адстае!», пакуль не ўцяміў, з якой бочкі ўсё гэта ўзялося і чаго яно варта. Стаў глядзець на вайну жанраў з паблажлівасцю, вачыма Фрэйда і Джойса, як на сублімацыю самасцвярджэння ці на нейкае магічнае дзейства. Заклінанняў пра адставанне было поўна ў прэсе, сродках масавай інфармацыі, вуснах агітатараў: вёска адстае ад горада, сялянства — ад рабочага класа, інтэлігенцыя адстае ад народа, літаратура — ад жыцця, усе мы адстаём ад запатрабаванняў часу. Усім трэба даганяць час, Саюзу — даганяць і пераганяць Амерыку.

Перагналі мы днямі Амерыку. І па чым? Па даўжыні паліцэйскіх дубінак: у амерыканцаў вісяць да калена, у нашых ажно да костак. Цікава было б даследаваць у лабараторыі вышэйшай школы міліцыі, да колькіх мікронаў спатрэбіцца скарачаць пачуццё асабістай годнасці слухача, пакуль ён па сваёй волі перастане саромецца насіць такое доўгае і матэрыялаёмкае начынне грамадскага парадку. Боязна, каб «кадры», згодныя насіць максі-дубінкі, не пусцілі іх у ход супраць вынаходцы. Падобны канфлікт робата з канструктарам прадбачыў і апісаў у вершы М. Танк гадоў дзесяць таму назад.

Узроўні літаратуры і крытыкі, у маім адчуванні, ніяк асабліва не суадносяцца між сабой, бо крытыка тая ж літаратура, толькі прадметам пазнання з'яўляецца для яе не «голая» рэчаіснасць, а пераствораная, адбітак, вобраз эстэтычна і этычна ацэнены мастаком. Жывым аб'ектам *крытычнага пазнання* з'яўляецца мастак як асоба і яго творчы акт як феномен пазнання і самавыяўлення таленту. Зразумела, і *«голую» рэчаіснасць*, матэрыял твора крытыку пажадана ведаць па меншай меры на ўзроўні мастака, аўтара, а эстэтычны густ трэба мець нават большы.

Няхай не спяшаюцца абражацца на мяне апалонавы сыны, не вытыкаюць пальцамі, што не было ў карагодзе муз музы крытыкі. Справа ідзе не пра саперніцтва ці перавагу. Справа пра кампаненты таленту мастака і крытыка, пра субстанцыю душ. У прыродзе мастака перавага належыць інтуітыўна-эмацыянальным здольнасцям над рацыянальна-аналітычнымі, пачуццям, фантазіі над рассудкам ці розумам, а ў крытыка, па ідэі, раўнавага таго і другога. Канешне, справа ў тым, на якім узроўні трымаецца тая раўнавага: калі на нізкім, дык такая ж бяздарнасць, як і нізкі ўзровень уражлівасці або ўяўлення ў паэта, празаіка, драматурга. Канешне, работа крытыка мае ў сабе больш ад рамяства, чым ад чыстай творчасці. Крытыку даводзіцца шмат працаваць галавою, карпець у бібліятэках, архівах, чытаць процьму мастацкіх тэкстаў друкаваных і рукапісных. Рэдка які празаік, а не то што паэт, вытрымлівае такое. Таму ў адказ на створаны ў асяроддзі літаратурных дасціпнікаў афарызм, што крытыкі — гэта нядошлыя паэты ці празаікі,можна сказаць, што большасць паэтаў і празаікаў — гэта нядошлыя крытыкі. Гаворачы сур'ёзна, прасіў бы звярнуць увагу тых, хто бачыць за гэтай куламесай рацыю каторага-небудзь боку, што Адамовіч, Брыль, Лойка, Гілевіч, якія працуюць на прафесійным узроўні адначасна ў мастацкіх жанрах і ў крытыцы ці літаратуразнаўстве, нідзе і ніколі не прыніжалі крытыкаў і не звальвалі на «адставанне» крытыкі віну за хібы і слабасці літаратуры. Яны ведаюць, па чым фунт ліха, чаго варты аўтару артыкул, што пішацца месяцамі, а набіраецца ў часопісах дробным шрыфтам або вяртаецца як «непраходны». Не ўзвышаюць мастацкіх жанраў над немастацкімі і тыя мастакі, што паралельна з прозай, паэзіяй пішуць публіцыстыку — Быкаў, Матукоўскі, Вярцінскі, Карамазаў. Для мастака праўда жыцця — гэта праўда твора, а для крытыка гэта дзве аўтаномныя і роўна цяжкія праўды, адносіны паміж імі дынамічныя, вострыя і балючыя: адная і другая цяжкія для разумення. Гаварыць пра іх нялёгка і адказна.

Слушна тое, што талент Бялінскага вырас на шэдэўрах Гогаля, Пушкіна, а талент Пісарава на востраактуальных творах Тургенева, Някрасава, хоць геніяльнасці, скажам, Дастаеўскага, Талстога, Чэхава магутна разрасталіся без дабратворнага ўдзелу раўнацэнных ім таленавітых крытыкаў. Чэхаў — недасяжны віртуоз слова — пры ўсёй сваёй цярплівасці пакутаваў ад тупой, абмежаванай крытыкі, але не пераставаў *быць* выдатным мастаком. Выстройванне звычайных твораў у надзвычайны па арыгінальнасці вобраз *«літаратурнага працэсу»* не палепшыць якасць літаратуры і не прынясе славы крытыцы. Вяласць сучаснай нашай крытыкі, у *маім разуменні*, гэта адбітак вялай сувязі паміж літаратурай і чытачом.

КРЫТЫКА можа рабіць рыўкі ў асэнсаванні літаратурнага працэсу толькі разам з мастацкімі жанрамі, арыентуючыся на чытача. Мастацкія творы, іх якасць уздзеяння на жыццё, уплыў мастацкай свядомасці на свядомасць нацыянальную і на фарміраванне характару беларуса — вось ядро літаратурнага працэсу. Пакуль што беларуская літаратура нават у Беларусі для многіх кнігалюбаў ці кнігаманаў, а нават для некаторых ідэолагаў з'яўляецца кустарна-перыферыйным прадуктам духоўнага спажывання, разлічаным на прастакоў. Як паказваюць публікуемыя ў «ЛіМе» сацыялагічна-*бібліяграфічныя* даследаванні, беларускія чытачы — гэта нейкі цыганскі табар, рускамоўны і замежнамоўны. Для гэтых *спажыўцоў беларускія кнігі*, як вырабы беларускіх фабрык: нешта горшае, чым ленінградскіх і маскоўскіх, і зусім нікчэмнае *ў параўнанні з імпартам*.

Я не лічу, што такая размеркаванасць густаў і попыту рафініраваная, высокакультурная, але так яно ёсць, так жывуць, так думаюць людзі, так сведчыць статыстыка: творы рускай і савецкай літаратуры чытаюць 42 працэнты апытаных, замежнай — 27, беларускай — 18 працэнтаў. Персанальныя прыярытэты: літаратура народаў СССР (фактычна рускамоўная) — Булгакаў, Пільняк, Платонаў, Пастэрнак, Рыбакоў, Гранін; зарубежная — Брантэ, Драйзер, Санд; беларуская — Адамовіч, Быкаў, Караткевіч, Шамякін. Не ведаю, для якой мэты праводзілася сацыялагічнае абследаванне. Мажліва, для таго, каб пацвердзіць, што духоўнае паміранне беларускай мовы ці нацыі — натуральны працэс, а тыя, хто трывожыцца, пратэстуе супраць такога становішча — нацыяналісты. Але праўда не бывае ні нацыяналістычнай, ні касмапалітычнай, яна бывае толькі праўдай, якая закранае за жывое ўсіх веруючых і няверуючых — у бога, чорта і лятаючыя талеркі...

Рывок, а лепш бы выбух, павінен адбыцца на трасе пісьменнік — чытач, крытыка адчуе яго, як пах азону ў часе буры. Канешне, крытыка таксама не мае маральнага права сядзець, склаўшы рукі, і чакаць з мора пагоды. Мора трэба падымаць вятрамі сатыры і публіцыстыкі. Калісьці я дзяліў беларускіх крытыкаў па складу іх талентаў на публіцыстаў, эстэтаў, філосафаў і гаварыў, што ўсе яны маюць роўнае права на існаванне, а больш патрэбныя і актуальныя тыя, хто ўмее глыбей выявіць эстэтычную прыроду твора і якасць таленту мастака, знайсці яму месца ў беларускім, еўрапейскім, сусветным кантэксце. Думаю, што такая канцэпцыя выснавалася некалькі заўчасна і адцягнута. Сёння на авансцэне аказваюцца мастакі і крытыкі з вострым грамадзянскім болем у сэрцы і вострымі пёрамі ў руках. Літаратурны працэс у рэспубліцы трэба рэанімаваць, лячыць падымаючы звычайную чытацкую дапытлівасць, актыўнасць, амбіцыі, гонар — бараніць ад дэнацыяналізацыі чытача. Трэба проста заахвочваць жывых душою людзей чытаць кнігі беларускіх пісьменнікаў, вучоных, гаварыць пра іх на таварыскіх сустрэчах і ў публічным жыцці.

Лічу добрымі сродкамі самаабароны ў сучаснай беларускай літаратуры творы новай сатыры. Яна пачала ачышчальную справу з пісьменніцкага асяроддзя па біблійскім наказе: «Ізраіль, выгані зло з самога сябе!». Так нарадзіўся дастойны «Тараса на Парнасе» «Сказ пра Лысую гару». Другім актам ачышчэння стаў сёняшні сказ пра «групы хуткага адпору». Твор слабейшы і незакончаны яшчэ ні аўтарам, ні жыццём, але аўтар смела паказаў пальцам на бастыёны кансерватызму ў Беларусі.

Праўдай-злыбядой сучаснага літаратурнага жыцця ў Беларусі з'яўляецца тое, што пісьменнікі не адчуваюць дастаткова моцнай апоры ў чытацкай масе. Перабудова мала што змяніла з-за бязглуздай ідэалагічнай блакады. На полюсе асцярожнасці акумулюецца нерашучасць, збянтэжанасць, нават сарамлівы ці баязлівы ізаляцыянізм; на экватары нейтральнасці — уздыханні і гаданні: «Брацця, ці зможам грамадскае гора, брацця, ці хопіць нам сілы?». Адпаведным чынам па законах дыялектыкі на полюсе радыкалізму робяцца адчайныя спробы выйсці з мёртвай пятлі, дапускаюцца перагібы. Не дзіва, што гарачыя сэрцы хапаюцца за што заўгодна, нават за веру ў цуды, а за адраджальную сілу слова — то напэўна. Затое ўпэўнена дрэмле Алімп. Бачаць алімпійцы безнацыянальныя маналагічныя сны, таму спрасоння прымаюць усе патрыятычныя акцыі грамадскасці за нашэсце марсіян, злосна аб'яўляюць ініцыятыўнікаў неіснуючымі і частуюць грамадскасць даўно з'ялчалымі пропаведзямі. Дзействы праходзяць пад бубны ідэалагічнай містэрыі, прэсавая блазнота абрыджвае нефармалаў, хапае за калашыны пісьменнікаў як упартых ужывальнікаў беларускай «нацыяналістычнай» мовы. Беларускага нацыяналізму, як чорта, ніхто ў вочы не бачыў, але тыя зашораныя, каму трэба ўсё ведаць па службе, ведаюць, што ён ёсць і мае капыты, хвост і рогі. У парадку самаабароны сацыяльна актыўныя пісьменнікі горнуцца да «Мартыралога Беларусі», ідуць у БНФ, урэшце і самі выступілі з *ініцыятывай стварэння культурна-асветнай арганізацыі* — Таварыства беларускай мовы. Дай бог, каб яна стала *масавай і захавала самастойнасць*. Дэмакратычны працэс мае патрэбу ў многіх і розных самадзейных арганізацыях. Новы *погляд на свет* абавязкова павінен быць мнагамерным і альтэрнатыўным. Толькі арганізаванае насельніцтва становіцца грамадствам, і толькі ўзаемаадносіны свабодна арганізаванай грамадскасці з урадам адраджаюць дэмакратыю.

Такая нялёгкая, балесная праўда літаратурнага (няхай будзе так!) працэсу.

ЛІТАРАТУРНЫ працэс у шырокім разуменні — гэта складаная сістэма ўзаемаадносін паміж таленавітымі індывідуальнасцямі, паміж творчымі сябрынамі і грамадскасцю: выдаўцамі, органамі друку, чытачамі, распаўсюджвальнікамі кніг, арганізаванымі ў самадзейныя калектывы (гурткі і клубы), нарэшце ўзаемаадносіны пісьменнікаў з роднаснымі творчымі асяроддкамі — навукоўцы-гуманітарыі, творчыя аб'яднанні кампазітараў, мастакоў, кінематаграфістаў, тэатральныя таварыствы, майстры эстрады, забаўляльных відовішчных мастацтваў і інш. Ядром літаратурнага працэсу з'яўляецца сувязь пісьменніка з грамадствам як вышэйшым суддзёй, мецэнатам, пакупніком, спажыўцом і заказчыкам мастацкіх каштоўнасцей, а ў нашым сацыялістычным грамадстве — з партыяй і дзяржавай, якія ажыццяўляюць палітычнае і дзяржаўнае кіраўніцтва жыццём краіны, арыентуюць творчую інтэлігенцыю на ўдзел у асэнсаванні нацыянальных і глабальных праблем сучаснасці, фарміраванні грамадскай думкі і нацыянальнай свядомасці, урэшце — гуманізацыі грамадства. У сферы творчага працэсу знаходзіцца выпрацоўка самім творчым асяроддзем, у цесным узаемадзеянні з грамадскасцю, метадалагічных і ідэалагічных пастулатаў, на аснове якіх фарміруюцца і ажыццяўляюцца канкрэтныя творчыя задачы. *Арэнай*, на якой разыгрываюцца вузлавыя моманты літаратурнага жыцця, з'яўляецца прэса, сродкі масавай *інфармацыі*, сходы і з'езды літаратурных аб'яднанняў, літаратурныя святы і жывыя кантакты з пісьменнікамі суседніх *і далёкіх краін*.

Што ж галоўнае для літаратурнага працэсу? Свабода творчага самавыяўлення, поўная самарэалізацыя талентаў, памнажэнне нацыянальнай і агульналюдской скарбніцы духоўных каштоўнасцей на карысць чалавека і чалавецтва, духоўнага і гуманістычнага росквіту. Ці можам мы лічыць, што такая складаная сістэма функцыяніруе ў нас свабодна, спраўна і плённа? На жаль, трэба сказаць, што не можам.

(Працяг на стар. 6).

# АБНАВІЦЦА ДУХАМ

(Пачатак на стар. 5).

Сістэма доўгі час была блакіравана і дэфармавана, вульгарна сацыялагізавана і ідэалагізавана, у ёй яшчэ застаецца шмат жылякоў, тромбаў і вузлоў тармажэння. Ці можа «прадзьмухаць» і ачысціць гэту сістэму сама крытыка? Наіўна думаць, што так. Дай бог, хоць бы прыкметна палепшыць пратоку жывога паветра паміж аўтарамі і чытачамі, падняць культуру зносін унутры самой пісьменніцкай сябрыны, ачысціць клімат ад падазронасці, недаверу, зайздрасці, амбіцыйнасці, кар'ерызму і іншых маральных заган. Прытым варта памятаць, што асноўнай сілай, якая дэфармавала літаратурны працэс у краіне, пераводзячы творчыя адносіны па самой сваёй прыродзе ініцыятыўныя, індывідуальныя, партнёрскія на каманднасубардынацыйныя, —з'яўляецца бюракратычна - камандная сістэма, якую мы сёння рэфармуем, яе артадаксальна-дагматычная ідэалогія, якая выказвае жывучасць, роўную самаму стойкаму пустазеллю.

Ці можна ўскласці віну за дэфармацыі творчых адносін на адну крытыку? Можна, калі нехта хоча адмахнуцца ад праблемы ці знайсці казла адпушчэння. Я думаю, па-справядлівасці, крытыка абавязана сёння адказваць перад усім за ўсведамленне маштабаў хваробы і складанасці «лячэння». Трэба развянчаць міф пра ўпраўляемасць літаратурнай творчасцю, дапамагчы грамадскасці і дзяржаўна-палітычнаму кіраўніцтву не толькі зразумець, але і прызнаць унікальнасць творчай работы, згубнасць для творчага працэсу абмежавання свабоды талентаў. Перажытыя ліхалецці, апусташальныя катаклізмы даюць да жаху пераканальныя аргументы, якіх нельга забыць ні для якой прывабнай мэты. Сёння ў рэспубліцы, як слушна адзначыў сакратар ЦК КПБ М. Ігруноў у артыкуле «Цяжар палітычнага лідэрства», нядаўна змешчаным у «Правде», парушылася сувязь паміж партыйным камітэтам і значнаю часткаю творчай інтэлігенцыі, асабліва пісьменнікаў. Я думаю, стан гэты натуральны: каб выйсці на новы ўзровень узаемаадносін, патрэбна спыніцца, падумаць, абнавіцца духам, а што датычыць калектываў, дык і фізічна абнавіцца, вылучыць новых лідэраў і ўстанавіць зоны свабоды ініцыятыў, творчай недатыкальнасці, а ўрэшце перайсці на свядомае партнёрскае супрацоўніцтва. Гэта мажліва, бо мэта ў мастакоў і ў партыі адна: шчасце народа, годнае чалавека жыццё.

Літаратура марудна, але ўсё ж змяняе свае функцыі, вызваляецца ад ілюстрацыйнасці, ідэалагічнага прыслужніцтва і балбатні пра адказнасць за ўсё ва ўсім свеце. Сціпласць — добры знак.

З палёгкаю думаю, што мне, як вузаўскаму работніку, не давядзецца мудрагеліць са студэнтамі над тэмай «Станоўчы герой перабудовы» або «Гераічны вобраз афганца ў беларускай паэзіі, прозе, драматургіі». Вобразы і творы будзем, як даўно таго хацелі, пазначаць толькі эпітэтамі праўдзівы або фальшывы, глыбокі ці павярхоўны, таленавіты ці бяздарны, афганцаў жа, так як і партызан, і франтавікоў Айчыннай вайны, наогул удзельнікаў усіх войнаў, якія памятае гісторыя, мастакі будуць паказваць чалавечнымі і нялюдскімі, высокімі і драбязлівымі, трагічнымі і камічнымі арламі і тхарамі. Так рабілі, прабіваючыся цераз ідэалагічныя калючыя драты, І. Мележ, В. Быкаў, У. Караткевіч, Я. Брыль, П. Панчанка, А. Адамовіч, В. Казько, В. Адамчык і ўсе сумленныя пісьменнікі, што адчувалі ў сабе прызванне несці місію праўдзівага бясстрашнага слова дзеля таго, каб мана не заглушыла праўды, каб душа народа не знячульвалася, каб не мялела рэчка жыцця. Каб усе мы не слеплі духам, не называлі сваёй праўдай крыўду іншых.

Не рывок, а прарыў павінна зрабіць беларускае акадэмічнае літаратуразнаўства, каб расчысціць вытокі літаратурнага працэсу ад затораў. Працуючы ва ўмовах ідэалагічнай блакады, літаратуразнаўцы вымушаны былі рыхтаваць і выдаваць акадэмічныя «Гісторыі беларускай літаратуры» пасля вайны без Максіма Гарэцкага і Цішкі Гартнага, Уладзіслава Галубка, Міхася Чарота, Міхася Зарэцкага, Уладзіміра Дубоўкі, Платона Галавача, нават пасля XX з'езда ўсё яшчэ без Алеся Гаруна, Вацлава Ластоўскага, братоў Луцкевічаў, Паўліны Мядзёлкі, Казіміра Сваяка, Францішка Аляхновіча, Наталлі Арсенневай і дзесяткаў іншых паэтаў, празаікаў, занесеных у спіс ідэалагічна неіснуючых. Пакуль гэты спіс не будзе цалкам выкінуты на сметнік перабудовы, да таго часу гісторыя Беларусі і гісторыя роднай літаратуры не стануць навуковымі дысцыплінамі.

Але хіба застойнікам ад ідэалогіі патрэбна поўная, не ампутаваная і не прыстасаваная для кланавых інтарэсаў грамадская навука пра Беларусь? З'яўленне такой навукі азначала б канец прывілеям на інфармацыю, канец манаполіі на канцэптуальны погляд, канец каманднa-размеркавальным прыёмам кіравання ў напрамку зліцця нацый, моў і культур у адну лагерную куламесу. Свабоды творчасці, духу і слова — вось чаго не хапае для нармалізацыі перабудовы ў БССР. Што датычыць літаратурна - мастацкай крытыкі, то ёй, у першую чаргу і тэрмінова, трэба папоўніць абсягі сучаснай беларускай літаратуры і мастацтва творчасцю мастакоў-суайчыннікаў, якія жывуць за межамі рэспублікі і СССР. Уласна пачаць гэтую справу павінны работнікі рэспубліканскіх бібліятэк, архіваў, музеяў, якія нарэшце абавязаны атрымліваць цераз каналы рэспубліканскіх прадстаўніцтваў за мяжой усю беларускамоўную прэсу, усе кнігі пра беларускія праблемы, свабодна набываць гістарычныя дакументы, творы мастацтва, прадметы даўніны, звязаныя з Беларуссю, і даць доступ да гэтых крыніц народу. А крытыка, думаю, не запозніцца пачаць асэнсаванне і ацэнку гэтых набыткаў у кантэксце айчыннай літаратуры і культуры. Ненармальна, што да гэтага часу толькі адна-дзве давераныя асобы атрымліваюць з засакрэчаных крыніц асобныя экземпляры зарубежных беларускіх выданняў і карыстаюцца імі, як модніцы імпартнымі дэфіцытамі. Манапалізм і дэфіцыт — згубная рэч для духоўнага жыцця.

ДА ЧАГО ПРЫВОДЗІЦЬ ідэалагічная блакада? Пра гэта гаварыў на нядаўняй рэспубліканскай навуковай канферэнцыі народны мастак Міхась Савіцкі і даследчыца кінамастацтва прафесар Е. Бондарава.

Прэтэнзіі да жанравых прывілеяў у літаратуры — гэта эгаістычныя прэтэнзіі аўтакратычна выхаваных людзей. Прыгадайце, што рабілася нават на сесіі новага, нарэшце свабоднага Савецкага парламента. Дэпутаты паўночных рэгіёнаў дамагаліся надбавак за халодныя зімы, паўднёвых — за гарачыя леты, прытым не на час маразоў ці спёкі, а на ўвесь год і на ўсё жыццё. Дэпутаты ад - рабочых дамагаліся кампенсацыі за цяжар фізічнай працы, а да іх далучыліся абаронцы прадаўцоў паўпустых магазінаў (цяжка ўручную насіць пустату), да ўхваленых ільгот састарэлым ветэранам Айчыннай вайны падключыліся маладыя «афганцы», ды так груба, што сорамна слухаць. Педагогаў, урачоў, работнікаў культуры незнарок «прызабылі». На фоне гэтага шабашавання партыкулярных інтарэсаў вясёлкавай стужкай, сімвалам рыцарства зіхатнулі таварыствы сляпых і глуханямых, што ў парадку ўдзячнасці за вызваленне іх прадпрыемстваў ад падаходнага падатку добраахвотна перадалі дзяржаве мільёны зробленых грошай у фонд павелічэння пенсій самым бедным састарэлым, нямоглым людзям. Вось гэта перабудовачны акт! Да слёз расчуліла мяне выступленне камсамольца, нашчадка рэпрэсіраванай сям'і, які дамагаўся для жывых яшчэ рэпрэсіўнікаў, забойцаў нявінных людзей, не смерці, а цывілізаванай кары — публічнай пагарды і пазбаўлення сацыяльных прывілеяў.

Я думаю, ніколі б сталінскія рэпрэсіі не зайшлі ў нашай краіне так далёка, калі б яны каварна і цынічна не заахвочваліся і не прыкрываліся прывілеяваннем пэўных груп насельніцтва, прытым не толькі з апарату ўлады, а з сацыяльных задворкаў. За рэпрэсіраванне кулакоў вясковая бедната (у асноўным аблудная, бо хто ж мог заставацца, а тым больш стаць сумленным бедняком на дванаццатым-пятнаццатым і нават на дваццатым годзе Савецкай улады?) атрымала прывілею заграбіць асабістую маёмасць рэпрэсіраваных аднавяскоўцаў, а калгас — калектыўна прысвоіць жывёлу, будынкі і зямлю. За рэпрэсіраванне вайскова-камандных кадраў прывілеі атрымлівалі тыя нядзарыцы, абібокі, тупіцы, што заседжваліся, не раслі ў званнях і пасадах. Масавае рэпрэсіраванне інтэлігенцыі адкрывала дарогу гарлахвацкім і зёлкіным, а на месца высланых у Сібір пісьменнікаў прыходзілі «вылучэнцы», «назначэнцы» і само сабою зразумела, даносчыкі і аферысты, што дапамагалі рэпрэсіўным органам складаць дзікія версіі пра нацыяналістычныя змовы, дыверсіі і ідэалагічнае шкодніцтва. У цэлым жа навуковая і творчая інтэлігенцыя была дзесьці набліжана да палітычнай і ідэалагічнай эліты па заробках і па допуску да дзяржаўных цырымоній і свят. Адным словам, каварны, злачынны прагматызм Сталіна сацыялізаваў рэпрэсіўнасць, зрабіў злачыннасць масаваю. Правадыр сам упраўляў гэтай вакханаліяй, сунімаў, калі яна выходзіла з берагоў, і жыццём ды смерцю супляменнікаў пачыналі забаўляцца нават не раёншчыкі, а «дзесяцідворнікі» (была і такая задворкавая эліта).

Варта памятаць пра ўсё гэта, каб зразумець прынцыповую шкоднасць неабгрунтаваных прывілеяў для ўсіх эліт, асабліва ў галіне творчасці. Мастак, стаўшы прывілеяваным, гэтак жа, як сыты кот, не ловіць мышэй. Падтрымліваю выступленні моладзі супраць закрытага прывілеявання. Трэба настойваць на шырокім кантролі за прывілеямі, дамагацца толькі адкрытага публічнага прызнавання сацыяльна і маральна апраўданых ільгот, хоць і гэты спосаб не створыць нейкай райскай гармоніі ў людзях, але, прынамсі, адмые абразлівую для законнага носьбіта ільгот пагарду суайчыннікаў, палепшыць грамадскі клімат у краіне.

Не пратэстуюць чамусьці маcцітыя пісьменнікі супраць наменклатурнага закрытага спосабу вылучэння кіруючых эліт. Такая нерашучасць тлумачыцца звычкай да табуізацыі наменклатуры як механізма вылучэння «кадраў». У свой час яна пранікала і ў творчае асяроддзе. Яшчэ і сёння дзяржаўныя і іншыя літаратурныя прэміі даюцца творам, пра якія нават для праформы не сказаў публічна добрага слова ніводзін чытач. Хапае думкі аднаго-двух крытыкаў ды секцыі жанру ў СП. І пасля такой практыкі мы хочам, каб крытыкаў паважалі не толькі паэты, празаікі, драматургі, але і тыя дасціпнікі, што прыдумалі выслоўі тыпу: крытык — нядошлы паэт, крытык — вучыцель, які пісаць вершы сам не ўмее...

АФАРЫЗМ Бялінскага не маўчаў і ў перыяд застою. Яго перафразіравалі паэты, празаікі і нават крытыкі. Каму не хочацца называць рэчы сваімі імёнамі, асабліва калі гэта забаронена? Усе тыя, хто меў дар творчага пазнання праўды, з горыччу ўсведамлялі, што ім часта даводзіцца траціць больш сіл, фантазіі, знаходлівасці на прыдумванне эўфемізмаў, метафар, намёкаў, паўнамёкаў, чым на само спасціжэнне праўды. Без вопраткі блазна праўда пра трагічныя калізіі, пра ідыятызм штодзённы, страту перспектыў, безнадзейнасць не магла з'явіцца ў друку. Пісаць жа ў стол, пісаць для будучых пакаленняў можна было таму, хто не сумняваўся, па крайняй меры, у будучыні мовы, на якой пісаў. Беларускія пісьменнікі пачыналі сумнявацца. Памятаю бяздумны выбрык аднаго з ужо нежывых літаратараў, што на пісьменніцкім сходзе публічна адгукнуўся на голас ідэалагічнага Алімпу і заклікаў прысутных усім гуртам перайсці на рускую мову, як мову братняга народа і мову будучага камуністычнага грамадства. Бурнага пратэсту ніхто не выказаў, не заляскаў, праўда, і ў далонькі. Абышлося збянтэжанасцю і ўгаворваннем. Не думаю, што па гэтай толькі прычыне ў беларускай літаратуры аказалася менш уваскрошаных перабудовай крамольных рукапісаў, чым у іншых. Прычын шмат, але большасць з іх — гэта сацыяльна-палітычныя, ідэалагічныя, а не літаратурна-творчыя прычыны. Пошасць ілюстрацыйнасці, бесканфліктнасці, рамесніцтва — гэта атручаныя плады грамадскай несвабоды, сацыяльных дэфармацый, урэшце згубнага манапалізму некампетэнтных людзей і інстанцый. Хваробы, як вядома, больш чапляюцца за кволы арганізм. Кволай беларуская літаратура стала па віне гістарычных і сацыяльных абставін.

Чаго толькі ні навучыліся мы ўзводзіць у культ, у ліхалецце культаў, чаго ні прывыклі містыфікаваць і фетышызаваць! Нават абстрактныя паняцці, такія, як, напрыклад, час. Час — фарміруе, Час — патрабуе, Час трэба спасцігаць і адлюстроўваць праўдзіва, мастак — выразнік свайго Часу!.. І нярэдка мастак, затлумлены банальнымі стэрэатыпамі, дазваляў пераносіць яго самога і яго справу ў свет фетышаў, не пратэставаў супраць табуізацыі твораў і асобы, крытыку крытыкі амбіцыйна ўсчынаў толькі ў адказ на цвярозыя дзелавыя ацэнкі. Такая крытыка супраць крытыкі аказвалася звычайна ніжэй за самую крытыку твораў.

Вітаю сумленную, кваліфікаваную, прынцыповую крытыку, вітаю такую ж крытыку крытыкі. Стымулам крытыкі павінны быць клопат і адказнасць, атмасферай літаратурных зносін — павага да апанента, мэтай — прафесіяналізм, культура творчасці.

г. Брэст.

ДЛЯ Мікалая Матукоўскага перабудова пачалася яшчэ досвіткам 50-х гадоў — менавіта з таго самага часу, калі ён упершыню ўзяўся за пяро. Не, празарліўцам, аракулам ён не быў; удосталь разам з усімі насёрбаўшыся заблуджэнняў і забабонаў сваёй эпохі, выплаціў разам жа з усімі горкую цану па рахунках, якія яна выстаўляла перад кожным. Але быў ён заўсёды чалавекам актыўнага грамадзянскага тэмпераменту, які, мусіць, і прывёў яго ў шэрагі газетных публіцыстаў. Бадай кожным сваім радком, надрукаваным у расонскай раёнцы, рэспубліканскай «Звяздзе», сталічных «Известиях», у штатах якіх прапрацаваў амаль усё жыццё, ён змагаўся за перабудовачныя адносіны да рэчаіснасці. Ці ж не таму кожная публікацыя М. Матукоўскага незаўважанай не засталася? Заўсёды і ўсюды выступленні яго вызначаліся надзённасцю, прынцыповасцю, вастрынёй. Так мог пісаць толькі журналіст па прызванню.

Але ёсць у Матукоўскага і другое прызванне. Драматургія. Зрэшты, ці можна наогул ставіць драматургію ў яго творчасці на другое месца? Хіба ж яна забірае менш душэўных сіл? Ды калі ўлічыць, што і захапіўся ёю М. Матукоўскі значна раней?

**А здарылася гэта так. У Матылёўскай школе на Расоншчыне драматычны гурток ставіў «Партызанаў» К. Крапівы. Старэйшы брат будучага драматурга выконваў ролю дзеда Бадыля. Спектакль уразіў: на сцэне адбываўся цуд пераўвасаблення. Вось ужо і брат, такі да болю свойскі, прывычны, здаваўся не братам, а ваяўнічым дзедам, з іншымі знаёмымі хлопцамі і дзяўчатамі таксама тварылася нешта нейкае. І цуд сыходзіў не з нябёсаў. Яго стваралі суседскія дзеці-школьнікі па гатовым, праўда, тэксце. А што калі?.. Так, так, праз два тыдні была напісана ўласная п'еса. Пра шпіёнаў, вядома, бо ў 40-я гады гэта гучала актуальна. Спектакль ставілі самадзейна ў найпаўнейшым значэнні гэтага слова. Гралі ў натуральных умовах — за вёскай, на выгане. Скончыўся спектакль кур'ёзна. З прытоенай гордасцю прызнаўся юны аўтар, што п'есу напісаў сам. Але воплескаў, крыкаў захаплення не было. А вось таўхалёў хапіла. Хлопцы хорашанька прамясілі надрабрынне непамыснага драматургічнага дэбютанта, не паверыўшы, што такая малеча можа самастойна перастварыць у сцэнічна-сюжэтных повязях жыццё. Не мані!**

Што ж, таўхалі давялося трываць і пазней. Ад рэжысё-

# Шаноўнай пані Зоф'і Налкоўскай...

**Удзельнікам мерапрыемства па ўшанаванні памяці Зоф'і Налкоўскай у Гродне пашчасціла ўбачыць гэты старажытны горад у кіпені квітнеючых каштанаў. Замак, Барысаглебская царква, кляштары і ўтульныя старыя дамы, пастаўленыя ў часы, калі цанілі адметнасць рукі майстра, будавалі трывала, дбаючы аб прыгажосці і непаўторнасці... Усё гэта пасвойму адбілася ў кнігах Налкоўскай, якая жыла ў Гродне з 1922 па 1927 год, а восенню дваццаць дзевятага прыязджала на адкрыццё помніка Элізе Ажэшка. Урачыстасці, прысвечаныя гэтай падзеі, былі арганізаваны Гродзенскім універсітэтам імя Янкі Купалы і абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры. І складаліся з міжнароднай навуковай канферэнцыі, адкрыцця мемарыяльнай дошкі і музея.**

**Вуліца Акадэмічная... Двухпавярховы дом з мінулага стагоддзя... Спадае белае пакрывала, і вачам удзельнікаў мітынгу адкрываецца барэльеф,**

**Віншуем!**



# АПОШНЯЯ ІНСТАНЦЫЯ— СУМЛЕННЕ

**Мікалаю МАТУКОЎСКАМУ — 60**

раў, крытыкаў, тэатразнаўцаў. Асабліва ж шчодра — ад каля-тэатральных чыноўнікаў, якія ўмелі проста па-майстэрску ладаваць рознага роду перашкоды. Літаральна прадзіраўся скрозь іх малады драматург, калі вырашыў паставіць п'есу «Мужчына, будзь мужчынам!» (1966) не на выгане, а ў больш людным і людскім месцы. У дзяцінстве спачатку п'есу паставілі, толькі потым «накастылялі», а вось у дарослым жыцці ўсё атрымалася наадварот. Зрэшты, у гэтых адносінах творчы лёс М. Матукоўскага можа лічыцца ўзорна тыповым для беларускай драматургіі пасляваеннага часу. Што ўжо там пачаткоўцы, калі нават мэтры ў нашых тэатрах прымаюцца, як бедныя родзічы. Адным словам, нацярпеўся з пастаноўкай камедыі «Мужчына, будзь мужчынам!» у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача, драмы «Тры дні і тры ночы» (1967) у Магілёўскім абласным драматычным тэатры.

А потым была «Амністыя» (1970). Ёсць у кожнага драматурга п'еса — і неабавязкова самая моцная, — па якой яго «пазнаюць» у тэатральным свеце. Дзякуючы «Амністыі» М. Матукоўскі стаў знакамітым не толькі на Беларусі: п'еса шырока выйшла на ўсесаюзную сцэну. Так што не дарэмна аўтар баяўся сурочыць: калі Міністэрствам культуры быў аб'яўлены конкурс на лепшы драматургічны твор, прысвечаны актуальным праблемам сучаснасці, ён пасылаў «Амністыю» з Масквы ананімна. Я — не я, і хата не мая. Вось што значыць зняверыць чалавека! А тым часам члену журы народнаму артысту БССР С. С. Бірылу п'еса спадабалася, і ён прапанаваў яе мастацкаму савету роднага купалаўскага тэатра. Прынялі. Пачалі рэпетыцыі. І зноў-такі ананімна: была б п'еса, а аўтар знойдзецца. Што ж, ён і сапраўды знайшоўся, бо як тут не адкрыешся: камедыя атрымала на конкурсе другую прэмію, без ніякіх ускладненняў прайшла на сцэну галоўнага тэатра рэспублікі! А тут яшчэ такі жаданансчаканы поспех у гледача... Гэта была перамога. Усё — у чаляднікаў драматургічнага цэха хадзіць досыць, цяпер можна працаваць вальней.

«Смех — справа сур'ёзная»,— так назваў М. Матукоўскі інтэрв'ю, якое ён узяў у А. Макаёнка для газеты «Известия» ў маі 1973 года. Менавіта сур'ёзны падыход да смеху і дазволіў беларускай камедыі заваяваць шырокі і трывалы аўтарытэт на ўсесаюзнай сцэне і за мяжой. Пік папулярнасці яе якраз і прыйшоўся на пачатак 70-х гадоў. «Трыбунал», «Зацюканы апостал» А. Макаёнка. «Брама неўміручасці» К. Крапівы, «Злыдзень» і «Укралі кодэкс» А. Петрашкевіча... У гэтым пачэсным шэрагу «Амністыя» не гублялася, не траціла ўласнага каларыту, бо насычана была мноствам арыгінальных аўтарскіх назіранняў над жыццём, над няпростымі перыпетыямі чалавечых узаемаадносін. Сёння з паважным здзіўленнем заўважаем, што драматург вельмі дакладна зафіксаваў многія адметнасці таго працэсу, які прывёў у рэшце рэшт да застою. Сапраўды, за што змагаюцца Бажашуткава і Добрых? За высокі працэнт выканання плана, за спакойнае ўласнае існаванне. Любой цаной. Вытворчасць дзеля вытворчасці і парадзіла такую з'яву ў рабочых калектывах, як хцівасць, цынізм, гарлахватніцтва. Рыгор Салавейчык, так званы «слесар-самародак», «гегемон» — аўтарскае адкрыццё. Да М. Матукоўскага прадстаўнікі рабочага класа паказваліся пераважна ідэалізавана, як правіла, у станоўчым плане. Большасць пісьменнікаў сарамліва адводзіла позірк ад відавочнай ісціны, што побач з рассяляньваннем вяскоўцаў поўным ходам ішло разрабочванне завадчан. Гублялася, дакладней, губілася пачуццё гаспадара, гонар за сваю прафесію, адчуванне адказнасці за супольныя інтарэсы. Вось што наносіла непапраўны ўрон ідэі сацыялізму, якая для драматурга заўсёды заставалася святой. Нягледзячы на ўсе дэфармацыі.

Пасля «Амністыі» М. Матукоўскі стаў жаданым аўтарам у тэатрах краіны. Непаразуменні з чыноўнікамі і рэжысёрамі здараліся па-ранейшаму, але п'есы яго пачалі ставіцца рэгулярна. У 1974 годзе Рускі драматычны тэатр БССР пазнаёміў гледачоў з «Апошняй інстанцыяй», а праз два гады ў Брэсце адбылася прэм'ера спектакля па драме «Наследны прынц». Праўда, аж да 1984 года, калі ў Віцебску свет рампы ўбачыла драма «Паядынак», прэм'ер не было. Аднак не было і творчага прастою. Проста ў гэты час М. Матукоўскі працаваў на кінематограф. Спачатку выйшлі дакументальныя стужкі «Мінск — горад герой» (1974), «Імгненне перамогі» (1975), а потым і мастацкія фільмы «Сын старшыні» (1976) і «Траянскі конь» (1980). Так, пісьменнік не зачахліў пяро, але для кожнага, хто хоць колькі-небудзь сачыў за яго творчасцю, было ясна, што ён рыхтуецца да новага рыўка. І спадзяванні спраўдзіліся: у 1988 годзе драматург прынёс у тэатр імя Янкі Купалы сатырычную камедыю «Мудрамер», якая неўзабаве была адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР.

«Мудрамер»—прыклад творчага выкарыстання і развіцця нацыянальных жанравых традыцый. Ну вядома ж, сэнсавая пераклічка з «Брамай неўміручасці» К. Крапівы не выклікае ніякага сумнення: у абедзвюх камедыях *штуршком для развіцця* сюжэта паслужылі фантастычныя адкрыцці сакрэту неўміручасці ў Крапівы і прыбора *для вымярэння мудрасці* — у Матукоўскага; у кожнай з іх канфліктныя сутыкненні абумоўлены не столькі розніцай паміж адмоўнымі і станоўчымі патэнцыяламі ў душах дзейных асоб, колькі рэакцыямі непрыняцця гэтых адкрыццяў. «Уплыў аднаго пісьменніка на другога, — прызнаўся аднойчы М. Матукоўскі, — іншы раз трактуюць вельмі спрошчана, прымітыўна. Калі «малодшы» будуе сюжэт альбо лепіць характар так, як «старэйшы», то гэта ўжо ўплыў. Мне ж здаецца, што гэта звычайнае эпігонства, якое не мае нічога агульнага з сапраўдным мастацтвам. Трэба зірнуць на справу трохі шырэй і глыбей. Плённы ўплыў не сумяшчальны з нятворчым пераймальніцтвам». Вось чаму драматург так старанна «інкруставаў» новую сваю камедыю — не проста адшукаў свежы, нязбіты жыццёвы матэрыял, а пастараўся эстэтычна рэалізаваць яго, асэнсаваць пры дапамозе арыгінальных выяўленчых прыёмаў і сродкаў. Камедыя вельмі сцэнічная. Празрыстая па сваіх ідэалагічных і маральных высновах, яна добра ўспрымаецца гледачом. На кожным спектаклі смех амаль не сціхае ў зале, але ні ў кога не павернецца язык сцвярджаць, што драматург імкнецца насмяшыць любой цаной. Смех для яго не мэта, а сродак для паражэння сацыяльных недахопаў. Выяўленчая палітра камедыі «Мудрамер» яркая, шматколерная. Скупа, але зусім пэўна ахарактарызаваны персанажы. Адным словам, адчуваецца, што п'есу напісаў майстар, якому пад сілу асэнсаванне любога жыццёвага матэрыялу.

Напярэдадні юбілею я задаў М. Матукоўскаму пытанне: «Што лічыце вы галоўным у сваёй дзейнасці драматурга?» І ў адказ пачуў:

**«Асабіста я стаўлю для сябе задачу ачалавечыць чалавека, якога наша XX стагоддзе ўсё больш і больш абесчалавечвае. Адбылося столькі катаклізмаў — войны, землятрусы, рэпрэсіі, тэрор... Недзе з пачатку першай сусветнай вайны самакаштоўнасць чалавека стала траціцца з катастрафічным дынамізмам. Са свайго боку і чалавек многае разгубляў у складаных умовах існавання і выжывання. Думаецца, сённяшні зямлянін горшы за таго, што быў сучаснікам Л. Талстога і А. Чэхава. Перакананы, што тагачасны зямлянін не кінуў бы атамную бомбу на шматтысячны горад— існавалі яшчэ пэўныя маральныя бар'еры, пераступаць якія лічылася грэхам. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя ўзброіла чалавека тэхнічна, але раззброіла маральна. Сёння для многіх аўтамабіль, відэамагнітафон даражэй за ўсё на свеце, таму мы паломку нейкага вузла ў бытавых машынах успрымаем больш трагічна, чым душэўны крах суседа. Чалавек — цар, вянец прыроды? Ды мы гэтаму цару мыла не даём, змыць хоць знешні бруд, павагі не даём, за нішто лічым... І гэта мяне вельмі турбуе, прыносіць душэўныя пакуты. Дарэчы, пра гэта новая мая п'еса, якую я толькі што завяршыў. Нічога пакуль што пра яе гаварыць не буду, але скажу, што ў ёй вельмі цяжкая, змрочная падзейная атмасфера. Але па-іншаму напісаць не ўдалося».**

Да галоўнага героя драмы «Апошняя інстанцыя» Ягора Максімавіча Малахава ў найцяжэйшыя хвіліны яго жыцця нязменна прыходзіла прывідная жанчына ў белым — вястуння яго сумлення. І няма куды схавацца, няма як схітрыць перад судом сумлення — гэта суд найапошняй інстанцыі. Пасля такога суда непазбежна павінен адбывацца працэс, які драматург называе ачалавечваннем. Дзеля гэтага і працуе ў літаратуры пісьменнік Мікалай Матукоўскі.

Сцяпан ЛАЎШУК.

---

выкананы скульптарам У. Церабуном. На ім затрымае позірк вучань па дарозе ў школу, студэнт, спяшаючыся ва універсітэт, старажыл і госць...

Гады, якія Зоф'я Налкоўская пражыла ў пакоях на другім паверсе дома на Акадэмічнай, не былі шчаслівымі ў яе асабістым жыцці. На «крэсы ўсходнія» Налкоўская прыехала пасля шлюбу з падпалкоўнікам Янам Гажахоўскім, узначаліўшым жандармерыю. Налкоўская на тыя часы была ўжо вядомай аўтаркай вершаў, раманаў, публіцыстычных артыкулаў, членам праўлення Саюза польскіх пісьменнікаў — спробы мужа адарваць яе ад інтэлектуальнай дзейнасці поспехаў не мелі. Да таго ж дачка вядомага вучонага і асветніка, блізкага да рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гадоў, грамадская дзеячка, выступаўшая супраць вайны, не магла прымірыцца з жандарам, куміром для якога быў Пілсудскі (менавіта яго мела на ўвазе Налкоўская, калі пісала сатырычны вобраз дыктатара па клічцы «Камендант»).

Тэма «нядобрага кахання» (назва аднаго з раманаў) прайшла праз многія творы, напісаныя Налкоўскай у тыя гады, праз апавяданні, эцюды «Гродна». У гэтым гаротным краі пісьменніца Зоф'я Налкоўская адкрыла новыя тэмы і новага героя, якім стаў маленькі чалавек амаль што з самага дна жыцця, своеасаблівая ахвяра палітычных інтрыг уладароў. Яна піша аб сацыяльнай несправядлівасці, аб прыгнёце, які церпяць украінцы і беларусы. Яна прымае ўдзел у «Таварыстве апекі над вязнямі» гродзенскай турмы, дзе былі за кратамі польскія, беларускія, літоўскія камуністы. «Турма 1924—1926»: пад гэтай назвай у «Дзённіку» (Налкоўская пачала яго ў пятнаццацігадовым узросце і пісала на працягу пяцідзесяці пяці год) з'яўляюцца запісы аб жудасных умовах, у якіх знаходзіліся асуджаныя, нататкі турэмнага быту, замалёўкі партрэтаў і лёсаў асобных з вязняў. Гродзеншчына знойдзе адлюстраванне ў публіцыстыцы Налкоўскай, у раманах «Граніца», «Вузлы жыцця» і іншых творах.

Навуковая канферэнцыя «Творчасць Зоф'і Налкоўскай і славянскія літаратуры» прыцягнула ўвагу вядомых польскіх і савецкіх славістаў. Галоўны яе напрамак быў вызначаны ў дакладзе В.А. Хорава, намесніка дырэктара Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР. Вядомы паланіст разглядае прозу Налкоўскай у кантэксце польскага рамана XX стагоддзя, акцэнтуючы пры гэтым пошук пісьменніцай новых форм гуманізму. Прыгадаю бліскучы даклад В. Наўроцкага, галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Культура», члена Нацыянальнага савета ПНР. На прыкладзе падрабязнага аналізу кнігі — «Раман Тэрэзы Геннерт» — былі пазначаны асаблівасці мастацкага стылю і тып паэтычнага мыслення пісьменніцы. Б. Бялаказовіч узняў актуальныя праблемы польска-ўсходнеславянскага пагранічча культур, уплыву «крэсавай» тэматыкі на беларускую, украінскую і польскую літаратуры. Грунтоўныя і цікавыя вывады ў сваіх дакладах зрабілі польскія вучоныя Д. Кулакоўская, Я. Камянкова-Страшак, гісторык і празаік Б. Кшываблоцкая, З. Анташэўскі, а таксама супрацоўнікі Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР С. Шарлаімава і Т. Агапкіна. Многія выступаючыя звярталіся да «Медальёнаў», танюсенькай кніжачкі, увабраўшай жудасную трагедыю вайны, бездань амаралізму, з чым Налкоўская сутыкнулася, працуючы пасля вайны, ў камісіі па расследаванні фашысцкіх злачынстваў.

Дарэчы, гэтая кніга была выдадзена ў перакладзе на рускую мову толькі ў шасцідзесятыя гады, на жаль, няма яе на беларускай. Аб «Медальёнах» і польскай дакументальнай літаратуры пра вайну гаварыла выкладчыца МДУ В. Ціхаміраа. «Дзённік ваенных часоў» Налкоўскай у суадносінах з сучаснай ваеннай прозай разгледжаны ў выступленні аўтара гэтага допісу.

Сярод удзельнікаў канферэнцыі былі дырэктар музея Адама Міцкевіча ў Варшаве Я. Адрованз-Пененжак, які патранує музей у Навагрудку, а таксама навуковы супрацоўнік музея Налкоўскіх у Гурках Й. Поль.

Асаблівую зацікаўленасць выклікалі даклад «гаспадыні» канферэнцыі, дацэнта кафедры літаратуры Гродзенскага універсітэта С. Мусіенкі «Гродзенскія матывы ў творчасці Зоф'і Налкоўскай» і выступленні маладых паланістак Д. Стацкевіч і Д. Вянсковіч, якія прачыталі свае пераклады нарысаў і апавяданняў Налкоўскай на беларускую і рускую мовы.

У адной з аўдыторый Гродзенскага універсітэта быў адчынены музей Зоф'і Налкоўскай. Наведвальнікаў сустракае партрэт пісьменніцы работы яе славутага земляка, драматурга і мастака С. Віткевіча. Усё ў музеі перадае эпоху і дух пісьменніцы: розныя выданні яе кніг, ксеракопіі дакументаў, пісьмаў, фотаздымкі, нават мэбля пасуе часу (яе збіралі энтузіясты). Падараваны музею і некаторыя каштоўныя рэчы.

Ушанаванне памяці Зоф'і Налкоўскай у Гродне ажыццяўлялі універсітэт, аддзяленне БФК і польскае Культурнае таварыства імя Адама Міцкевіча.

**І. ШАБЛОЎСКАЯ,**
**дацэнт, загадчык кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна.**

---

# НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ, ПАДПІСЧЫКІ

**Звяртаюся да вас з просьбай, а дакладней—з пытаннем. Справа ў тым, што выдавецтва «Мастацкая літаратура» павінна выпусціць у свет Збор твораў У. Караткевіча ў васьмі тамах. І гэта за 1987—1990-ы гады, калі не памыляюся. На сёння выйшла толькі чатыры тамы. Хацелася б ведаць, як выдавецтва мяркуе выдаць астатнія кнігі, бо часу засталося вельмі мала. Думаю, што гэта хвалюе не толькі мяне.**

**С. ШАЎЧЭНКА.**

г. Добруш.

У 1987 годзе ўбачылі свет першыя два тамы Збору твораў У. Караткевіча. У 1988 выйшаў трэці. Затрымка атрымалася толькі з 4-ым томам, выпуск якога перанесены з мінулага года на вясну гэтага. Нядаўна мы атрымалі з паліграфкамбіната 5-ы том. Своечасова здадзены ў друк 6-ы і 7-ы тамы. Такім чынам, у наступным годзе, як і меркавалася, мы завершым выпуск Збору твораў Уладзіміра Караткевіча.

**В. ШЫХАНЦОЎ,**
**намеснік галоўнага рэдактара па рэкламе выдавецтва «Мастацкая літаратура».**

## Паэзія

### Мікола КУСЯНКОЎ



### Чаша

«На ўсіх пасадах...» Сумны некралог.
Апошнія жалобныя хвіліны.
Ён у труну сваю пачэсна лёг,
А мы над ёй слязу праліць павінны.

Жалобны марш — як многа ў ім тугі
Па страце, па растраце незваротнай:
Куды ні глянь — адны яго даўгі,
Хто верне іх цяпер зямельцы роднай?

Грэх за спачын душы не прыгубіць.
А рытуал, што займе болей часу:
Яшчэ нам з горкай чашы піць і піць,
Бо ён пакінуў нам такую чашу.

### Плач па дзяўчыне

Ён не даждж‍ом,
А маімі слязамі паліты,
Гэты асфальт, па якім ты бяжыш,
А куды?..
Трэба ж было табе кінуцца так
У палітыку,
Быццам няма дзе падзець
Маладыя гады.

Вочы —
Блакіту нябеснага бездань —
Багіня!
Станам жа стройная —
Нібы з часопіса мод.
Але шкада:
Прыгажосць твая марна загіне,
Бо на крамольны ты, мабыць, спяшаешся
Сход.

Што табе трэба?..
Каб наская выжыла мова?
Каб і гісторыя
З ёй ажыла заадно?..
Вершык складзеш,
Ды канае ў ім роднае слова:
Нехта дзьмухне —
І, як свечка, пагасне яно.

Кажуць пра культ: ён памёр,
Ды калі б з катафалка
Не падхапіўся ён,
Покуль вязём на клады.
Ох і прыпомніць табе ён твой сход,
Нефармалка, —
Паберагліся б,
Бо ўжо ж не маленькая ты.

Кажаш, парфумы
Яшчэ не ўжывала ні разу?
Дык кавалер,
Пад руку цябе ўзяўшы ямчэй,
Сілай прымусіць
Панюхаць з балончыка
Газу —
Ён ужо слёзы
Ў цябе выціскае з вачэй.

Паразумней жа —
І плюнь на свайго нефармала:
Шчасця не дасць ён табе
За тваю прыгажосць.
Глянь:
Хіба хлопцаў талковых
Вакол цябе мала? —
Пойдуць угору,
На тое рука ў іх там ёсць.

Век за такім
Пражыла б ты з ягонай кар'еры,
Як за каменнай,
Ды не за панельнай,
Сцяной.
Але капрызіш —
Не хочаш прэстыжнай кватэры:
І ў будане, бач,
Духоўнасці хопіць адной.

Горды насок
Ад чыноўнага вернеш мундзіра:
Хочаш культуры!..
Як пыху тваю мне стрываць?
Ён жа культурны,
Бо ён жа чытаў «Мыйдадзіра»,
Нават культурай
Прызначаць яго кіраваць.

Мела б дачку,
А пасля ёй прыдбала б і брацiка.
І, мацярынскі сцяярджаючы свой
Ідэал,
Узгадавала б
Яшчэ аднаго бюракрацiка...
Але, на жаль,
Затлуміў галаву
Нефармал.

Трэба ж было табе
Кінуцца з ім у палітыку! —
Быццам няма дзе падзець
Маладыя гады.
І не даждж‍ом,
А маімі слязамі паліты
Гэты асфальт, па якім ты бяжыш,
А куды?..

### Выціскаю з сябе раба

Быў нямым і пакорным, ды баста!
Не бравада і не пахвальба:
Я. з сябе, нібы з цюбіка пасту,
Выціскаць пачынаю раба.

Ён маёй не зазнае ўжо ласкі,
Бо не тая пара на дварэ.
Ну і раб!.. І густы ён і вязкі,
Ды з мяне ён, зірніце, як прэ!

Выціскаю раба векавога —
Так ён падае сення ў цане.
Але вельмі ж ва мне яго многа! —
Божа, скончыцца раб мой ці не?

### Кафка

Як моцна калісьці павеяла Кафкам!
Аж мусіў ягоным паверыць я кнігам,
Бо нехта параіў: «Сядзі і не каўкай!»—
І стаў я катком, паслухмяным і ціхім.

Затым я і жабкай адчуў сябе звычна.
А ператварэння такога разгадка —
Той самы таварыш зірнуў іранічна:
«Куды ты караскаешся, жабянятка?»

Лядок у вачах, ажно стала мне зябка.
І ў стане халоднага анабіёзу
Гібеў да вясны я, адтаў жа не жабкай,
Бо зведаў чарговую метамарфозу.

Але я не дэмана злога малюю,
Бо ён жа лагодны і добры надзвва.
Адно што кузурку заўважыў малую
І пстрычкай мяне ён зганяе з мундзіра.

### Позірк

Нас на распыл
Не везлі ў Курапаты,
І мы не знаем,
Што такое краты.

Бо іх з акон
Пачаў збіваць закон.
І больш ніхто не судзіць,
Як з іконы.
А гэты косы позірк
Ці законны?..

Як незваротных дзён
Прысуд кароткі,
Ён незаконны ўжо...

А косы ўсё-ткі!

### Яўгенія ПФЛЯЎБАЎМ



### Змора

Стамляецца мора у бітвах з навалай,
Таймуючы хвалі з-пад чорнае хмары,
І томіцца сэрца, што з болем кахала,
Не лічачы крыўды, не стаўшы ахвярай.

Прачнуўшыся рана, ці ночкай бяссоння,
Пачуеш нібыта яно зазвінела
Малым ланцужком, што прыкута ў
палоне,
Абручкай, якая вякі не ржавела.

Яе пілавалі, баронячы рукі,
Што сталі грубець, абдымаючы ростань,
Сціскаючы ўсе неправідныя мукі,
Каб толькі душы не кранула кароста.

Стамляецца мора, таймуючы хвалі,
Зганяючы злосці сляпой шумаванне,
І томяцца сэрцы, што многа кахалі...
Ды ў гэтым нашэсці ніхто не павінен...

●

У чысціні халодных слоў
З ільдзінкай веснавой крыніцы
Крышталізуецца любоў,
Калі адважышся напіцца
На ветры, што душу прадзьме
І полымем запаліць вочы,
Пагасіць іранічны смех
І ў ліхаманку кіне ўночы.

●

Яшчэ ты не знаеш, бялюткі лісток,
Якім будзе слова з высокіх аблок,
Што тут адаб'ецца ў тваёй чысціні,
Запаліць яно ці пагасіць агні.
А можа, само, не зазнаўшы глыбінь,
Само, не прачнуўшы, як звоніць Хатынь,
Як б'ецца душа там, дзе пусткі дымяць,
Сябе яно, можа, запрагне суняць...

Як трэба нам змоўчыць, калі мы крычым
І сэрцам, і думкай — найбольш уначы.

**Апошнім часам гасцямі рэдакцыі «ЛіМа» былі многія замежныя літаратары і журналісты, якія займаюцца вывучэннем і прапагандай у сваіх краінах беларускай літаратуры, перакладаюць яе. Справаздачы аб такіх сустрэчах публікаваліся пад рубрыкай «Госці «ЛіМа». Пэўна, пад такой рубрыкай мы паведамілі б і пра наведанне рэдакцыі беларускім гісторыкам, празаікам Міколам Гайдуком, які жыве і працуе ў Беластоцкім ваяводстве Польскай Народнай Рэспублікі. Але ён прыйшоў у «ЛіМ» не адзін, а з членам рэдкалегіі штотыднёвіка, нашым пастаянным аўтарам Барысам Сачанкам. Нечакана тут, за рэдакцыйным сталом, з ужо традыцыйным лімаўскім чаем, усчалася зацікаўленая, шчырая размова. Нам засталося адно занатаваць іх дыялог і прапанаваць яго чытачу.**

## Дыялог у рэдакцыі

# БЕЛАРУСЫ ТАМ І ТУТ



**Б. Сачанка.** — Мікола, ты нарадзіўся на Беласточчыне, але ўсё ж не адразу выбраў, калі можна так сказаць, сваёй прафесіяй, сваім лёсам беларускую гісторыю, беларускую літаратуру...

**М. Гайдук.** — Радзіма мая — хутар Кабылянка, што ў Міхалоўскай гміне. Нарадзіўся ў 1933 годзе. Вучыцца па-беларуску спачатку сапраўды не змог. Пайшоў у польскую школку, скончыў адзін клас, а тут вайна пачалася... Не, не Вялікая Айчынная, а, як пісалі тады ў савецкім друку, вызваленчы паход Чырвонай Арміі. Беласточчына ў выніку далучэння да Беларусі стала савецкай. Таму правучыўся два гады яшчэ ў савецкай школе, нават акцябраткам стаў. У гады фашысцкай акупацыі наведваў нелегальную школу. Вучыў у ёй праваслаўны святар, сённяшні мітрапаліт Варшаўскі і ўсёй Польшчы Васілій — Уладзімір Дарашкевіч. Зноў жа, правучыўся толькі два гады. У чацвёрты клас сказалі не прыходзіць: небяспечна, немцы лютуюць. Давучваўся пасля вызвалення ад гітлераўцаў. Два гады хадзіў у беларускую школу, якая працавала ў Міхалове. Сам разумееш, які час быў. Лютавала банда і ў тутэйшых мясцінах. Пастраляла партыйны актыў, настаўнікаў напалохала. Сёмы клас заканчваў у польскім ліцэі.

**Б. С.** — І пасля гэтага паехаў на курсы ў СССР?

**М. Г.** — Не, не адразу. Пасля заканчэння два гады...

**Б. С.** — Зноў два...

**М. Г.** — Сапраўды, лічба «два» мне пастаянна спадарожнічала. Шчаслівая і нешчаслівая разам... Дык вось, два гады працаваў у гміне — сельсавеце. Усяго чатыры чалавекі было нас, а работы вельмі шмат. Гаспадароў на тэрыторыі гміны ажно 3380, а тут дзяржпастаўкі па збожжы, бульбе, мясе. Працы хапала. Да ўсяго, не трэба забываць, які тады час быў...

**Б. С.** — Пасля гэтага і вырашыў вучыцца далей?

**М. Г.** — Даведаўся, што прымаюцца заявы жадаючых ехаць вучыцца ў Савецкі Саюз. Падаў заяву і я. Нас, прэтэндэнтаў, шмат набралася, ці не 15—20 чалавек на адно месца. Конкурс праводзіўся ў Варшаве. Я аказаўся ў ліку тых, хто яго прайшоў. І пасля гэтага паехаў на вучобу. Апынуўся ў Растоўскім універсітэце, вывучаў рускую філалогію. Пашанцавала, што царкоўна-славянскую мову выкладаў у нас былы асістэнт Карскага, чалавек высокаадукаваны і культурны. У 1955 годзе навучанне замежных студэнтаў сканцэнтравалі ў буйных цэнтрах — Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Адэсе, Мінску...

**Б. С.** — З Растова-на-Доне ты і паехаў у Мінск?

## Вера

Вернасць, давер'е, вера —
Дрэваў магутных камлі
З парасткаў ёнасферы,
З прагных карэнняў зямлі.

З імі жыве непахіснасць,
Шлях прастарнее відна, ·
Шырыцца й твой асабісты
У накірунку стырна.

Вернасць, давер'е, вера —
З імі ідзеш на пасад, —
Там, дзе без засавак дзверы,
Веры твае адрасат.

Ніжуцца год тваіх нізкі
Пад перуновы раскат,
Шлях да дзвярэй тых няблізкі,
Як да натхнення ў радках.

## Чаромха

Вакол тайга, а ў весні час
Там расцвіце чаромха.
Найлепшая з усіх акрас,
З парфумаю у гронках.

З тых гронак ягада расце
І спеліцца пад сонцам, —
Ласунак першы для дзяцей
Па даўняй завядзёнцы.

Чаромху сушаць і таўкуць,
А чорныя зярняты
Сямейка меле на муку
І ў будні дзень, і ў свята
Каб быў пірог багаты.

Я помню тыя пірагі
І смак іх не пазбыты.
Пяклі іх маткі — не багі.
Каб паспытаў нясыты.

І помню мілых тых жанчын,
Што добра разумелі,
Як па Сіблагах жывучы,
Настаўніцы марнелі.

За абавязак мелі свой
Пірог занесці ў школу, —
І чаш настаўніцкі пакой
Тады глядзеў вясёла.

г. Марыінск Томскі.

## Рэшта лёсу

Набліжаецца, ужо блізка
Рэшта лёсу сівай пліскай.

Рэшта лёсу, рэшта лёсу,
Ты нічога больш не просіш?
— Папрасіла б, але досыць...
Досыць зману, досыць смуткаў, —
Хай астатнія мінуты
Ці часіна адвітання,
Хай яны жыцця не ганяць —
Праўда ў ім жыла і сіла,
Што няпраўда падчасіла.

Рэшта лёсу мне міргае:
Што ж цяпер не вымагаеш?
Пазнавата, але можна
Гэты боль і смуткі доўжыць.

Ці стрываюць толькі плечы
Груз такі нечалавечы...

## Друг

А з кім перакінешся словам,
Калі не з уласным радком. —
Не знаецца ён ні з абмовай,
Не ўмее нашкодзіць крадком.

І ў ноч абзавецца на голас,
І рана абудзіць: Пара!
Хоць рэдка бывае вясёлы
У сціску жалезным пяра.

Па ўсіх абавязках сардэчных
Ён друг, спадарожнік жыцця,
Ён родны твой брат і стрыечны,
Дзіцёнак твайго пачуцця.

Самотнік, як ты: уладае
Ён поўняй відна уначы:
Пакута твая засынае
З ягонай рукой на плячы.

## Мова

Гаворым мы рознаю мовай,
Мяшанкаю з многіх крыніц.
А спеў пачынаем ад слова,
Што з матчынай толькі радні.

Яго прыкладаем да вуснаў,
Да сэрца, як наша дзіця:
Яно — гэта лёс беларускі,
Нязгасны наступнага сцяг.

●

Не можа віхар абабіць
Таго, што мусіць стаць красою,
Што зараз вымкне, будзе жыць
У хмельным, у густым настоі.

Вякі вясны, яе паўтор
Той непаўторнасцю багаты,
Што кожны год на новы ўзор
Ткуць промні водарныя шаты.

Сінее, днее далягляд,
Заглядзеўся ў азёры сэрцаў,
І літасцівы той пагляд
Смуга не мае змогі сцерці.

---

**М. Г.** — Не, у Ленінград, і зноў на два гады... Скончыў амаль чатыры курсы, калі ўзяць разам вучобу ў Растове і Ленінградзе. А тое, што неўзабаве апынуўся ў Мінску, вырашыла гутарка з бацькам у час канікул. Ён паказаў мне «Ніву», якую выпісваў і з ахвотаю чытаў. Газета зацікавіла мяне. Пайшоў у Беластоку ў рэдакцыю, даведаўся пра Беларускае культурна-асветнае таварыства. Перавесціся аказалася куды складаней, чым напачатку думаў. Але напісаў адну заяву, другую, і праз пасольства дапамаглі мне. Вучобу ў Беларускім дзяржаўным універсітэце заканчваў экстэрнам. Міністэрства дало мне на гэта тры гады, я здаў усе экзамены і залікі за два. Выкладчыкі дапамаглі, каб я вучыўся паспяхова. Асабліва добрым словам хочацца ўспомніць незабыўнага Міхася Рыгоравіча Ларчанку. Іван Васільевіч Гутараў, калі даведаўся, што я добра ведаю польскую мову, прапаноўваў заставацца працаваць ва універсітэце. Мяне ж пацягнула на радзіму.

**Б. С.** — Пачаў працаваць у Беларускім настаўніцкім ліцэі?

**М. Г.** — Спачатку настаўнічаў, а потым стаў дырэктарам ліцэя. Шэсць гадоў працаваў. Выкладаў беларускую мову, адначасова і лацінскую, якую ведаў яшчэ са школы. Удалося нямала зрабіць на пасадзе дырэктара. Дамагліся, што палепшылася вучэбная база, павялічыўся прыём навучэнцаў, ліцэю было прысвоена імя Браніслава Тарашкевіча.

**Б. С.** — А гісторыяй калі захапіўся?

**М. Г.** — Далучэнне гэтае адбывалася паступова. Зноў жа, не без дапамогі «Нівы». Зацікавіў, памятаю, нарыс пра жыццё і творчасць Людвіга Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі). Потым прачытаў пра Яўхіма Карскага, даведаўся, якім глыбока эрудзіраваным чалавекам ён быў, як шчыра дбаў пра вяртанне гістарычнай памяці народа...

**Б. С.** — І ў самога з'явілася жаданне нешта напісаць?

**М. Г.** — Пачынаў з апавяданняў, пад час працы ў ліцэі. Так з'явіліся апавяданні «Воўчы спеў», «Крамола». Заглыбіўся ў саму старажытнасць, аж но ў XIII стагоддзе. Захацелася расказаць пра князёў, заслугі якіх перад гісторыяй вельмі вялікія. Некаторыя з іх цяпер дапрацаваў, а то і перапісаў нанава. Кнігу прапаноўваю вашаму выдавецтву «Мастацкая літаратура». Калі ж увогуле гаварыць пра пачатак маёй творчай дзейнасці, дык пачынаў з допісаў. Знаёмячыся з публікацыямі «Нівы», шмат новага, раней невядомага мне адкрываў па гісторыі. Нешта захацелася і самому пра мінуўшчыну расказаць.

**Б. С.** — А як ты трапіў на працу ў рэдакцыю газеты «Ніва»?

**М. Г.** — Адбылося гэта ў 1971 годзе. У Беластоку ў мяне быў вялікі дом, свая гаспадарка. А тут дочкі павырасталі. Вырашыў памяняць жытло ў Бельску на Беласток. Рэдактар газеты Георгій Валкавіцкі (Юрка Зубрыцкі) вельмі прыхільна да мяне паставіўся. Узяўся весці краязнаўчы слоўнік. Хадзіў ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара, запісваў легенды, паданні, занатоўваў усе найбольш важныя, найбольш істотныя падзеі. Хацелася паказаць, што зямля беластоцкая — частка зямлі беларускай...

**Б. С.** — Што яна і ўкладам сваім, і мінулым звязана з Беларуссю?

**М. Г.** — Менавіта так. Гэты слоўнік мне ўдалося зрабіць на чатыры літары, літарай «Г» пакуль што завяршыў, але буду працягваць і далей. Гэта неабходна рабіць, бо з'явіліся ўжо розныя тэндэнцыі адносна мінулага беластоцкай зямлі, яе традыцый.

**Б. С.** — Здаецца, за дзесяць гадоў набралася сто тваіх публікацый, аб'яднаных назвай «Шляхам гадоў»?

**М. Г.** — Недзе так...

**Б. С.** — І ўсё гэта — сама гісторыя Беларусі...

**М. Г.** — Заходняй яе часткі. Землі Тураўская, Гарадзенская, Навагрудская... Пра іх мая гаворка, пра багатую гісторыю, вялікія нацыянальныя традыцыі, пра культуру народа, пранесеную праз стагоддзі.

**Б. С.** — Па сутнасці, напісана вялікая кніга...

**М. Г.** — Рукапіс гэтай кнігі прапанаваў выдавецтву «Юнацтва». Дырэктар Валянцін Лукша прыхільна сустрэў яго, «Шляхам гадоў» значыцца ў плане «Юнацтва».

**Б. С.** — У нас жа амаль няма гістарычнай эсэістыкі.

**М. Г.** — Тут шмат чаму можна, ды і трэба, павучыцца ў палякаў.

**Б. С.** — І ў прозе, і ў паэзіі.

**М. Г.** — Бяда наша ў тым, што мы пакуль што беларускімі вачыма не глянулі на беларускую гісторыю. Возьмем, напрыклад, Крашэўскага. Ён, канечне ж, зрабіў вельмі і вельмі шмат, але гэта позірк на мінулае польскага гісторыка. Адсюль — і свае акцэнты, свае ацэнкі.

**Б. С.** — Да многіх гістарычных асоб, асабліва, калі яны належалі да кіруючага класа, па-ранейшаму падыходзім вельмі аднабакова. Узяць хоць Януша Радзівіла. Ён жа хацеў адрадзіць Вялікае княства Літоўскае... Добра, што пачынае адбывацца зрух, бяруцца за асваенне гістарычнай тэматыкі маладзейшыя. Працягваюць тое, што пачаў Уладзімір Караткевіч. Кнігі Вольгі Іпатавай, Леаніда Дайнекі, Уладзіміра Арлова, Кастуся Тарасава — пацвярджэнне гэтага. Тым самым падмурак гістарычнай літаратуры, гістарычнай эсэістыкі закладзены.

**М. Г.** — Трэба, каб з'яўлялася як мага больш агульнадаступных кніг па гісторыі. Зноў жа, павучымся тут у палякаў. У іх ледзь не пра кожнага караля нешта напісана, пра асобных нават ёсць манаграфіі. У беларусаў пра такое і думаць немагчыма. А нельга ж забываць, што толькі праз жыццё князёў, тых жа каралёў можна зразумець і жыццё пэўнай эпохі, бо менавіта яны былі ў цэнтры і вялікіх, і малых падзей.

**Б. С.** — Трэба, каб выхаванне гісторыяй пачыналася з маленства. Ужо дзіця павінна ведаць многае пра мінулае, памятаць, што ўсе мы на сваёй зямлі — не людзі без роду-племені, а народ, беларускі народ.

**М. Г.** — Трэба, каб і сам народ быў свядомы сваімі каранямі, сваімі вытокамі. Для гэтага ж неабходна, каб ён як мага лепш ведаў сваіх нацыянальных герояў.

**Б. С.** — Без ведання фальклору таксама не можа быць дасканалага ведання гісторыі свайго народа.

**М. Г.** — Фальклор — нездарма ж кажуць — душа народа. Фальклору я запісаў шмат. І самастойна збіраў яго, і разам з дочкамі, са студэнтамі запісваў. І песні, і казкі, і легенды, і паданні. Так нарадзілася кніжка «Аб чым шуміць Белавежская пушча». За яе, дарэчы, мяне і прынялі ў Саюз пісьменнікаў Польшчы. Вось-вось з'явіцца дапоўненае, дапрацаванае выданне.

**Б. С.** — На якой мове выйдзе гэтая кніга?

**М. Г.** — На польскай... Крыху зяць мне дапамог, ён паланіст. Увогуле, у мяне ёсць яшчэ агромністы збор фальклору.

**Б. С.** — Песень?

**М. Г.** — Так, песень. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР выкарыстоўваў іх, рыхтуючы тамы серыі «Беларуская народная творчасць». Напісаў я і два артыкулы — пра веснавы і пра радзінны абрад Беларусі. Прапанаваў у польскае выдавецтва.

**Б. С.** — Гэта добра, што ўжо столькі зроблена на Беласточчыне па збіранні нацыянальнай культуры, захоўванні традыцый. Цікава, а як сёння — літаратурны рух у вас шырыцца, уліваюцца ў яго новыя маладыя сілы?

**М. Г.** — У будучыню трэба глядзець аптымістычна. Ёсць нямала маладых таленавітых аўтараў, якія ўжо хораша заявілі аб сабе, любяць беларускую мову, літаратуру. Прыхільна сустрэта творчасць Ю. Баены, Н. Артымовіч, М. Шаховіч і іншых. Маладыя аўтары не толькі пішуць, але і прымаюць актыўны ўдзел у беларускім руху. Падзвіжніцкая работа — таксама важная. Падмацоўваць сваю беларускасць, быць акумулятарам нацыянальных ідэй, несці ў масы роднае слова — гэта якраз тое, што патрэбна сёння ўсім нам, беларусам.

**Б. С.** — Гэта не першы твой прыезд у Беларусь...

**М. Г.** — Не першы, але магу сказаць, што адзін з самых плённых. Як ужо казаў, прапанаваў «Мастацкай літаратуры» і «Юнацтву» свае кніжкі, прымаў удзел у работах з'ездаў Беларускага народнага фронту і Таварыства беларускай мовы. На абодвух выступіў. Здаецца мне, што адбываецца не на словах, а на справе сапраўднае нацыянальнае адраджэнне. У народа з'явілася ўсведамленне сваёй нацыянальнай самасвядомасці. Вядзецца сапраўдная барацьба за адраджэнне мовы, культуры, традыцый. І што важна, у гэтым змаганні за беларускасць прымаюць удзел самыя розныя людзі — партыйныя работнікі, рабочыя, святары, вучоныя... Сярод іх вельмі шмат моладзі. А дзе моладзь, там і будучыня. Людзі пажылыя павінны лічыць сябе шчаслівымі, што прыйшло такое актыўнае маладое пакаленне. Мы ж лічылі сябе ледзь не апошнімі магіканамі.

**Б. С.** — Ёсць, аказваецца, карані, бруяцца крыніцы...

**М. Г.** — Еду ў аўтобусе з Ракава. Разгаварыліся з суседам. Механікам у калгасе працуе. Так хораша па-беларуску размаўляе, проста не верыцца. Калі ёсць такія людзі, мова родная не памрэ.

**Б. С.** — Цяпер у нас у рэспубліцы нямала робіцца, каб сабраць тое добрае, што робіцца далёка за межамі Беларусі па прапагандзе беларускай мовы, літаратуры, культуры — у Маскве, Вільнюсе, Рызе і далей — у Вашынгтоне, Нью-Йорку, Лондане... І, вядома ж, у Польшчы. Пра Беласточчыну, канечне, і раней не забываліся, але сёння і ў гэтых узаемаадносінах, кантактах наступіла сапраўднае адраджэнне. Штогод у «Мастацкай літаратуры» выходзіць дзве-тры кніжкі беластоцкіх аўтараў. Такую практыку хочацца толькі вітаць. Пішам пра беларускую эміграцыю, друкуем творы...

**М. Г.** — Нарэшце, ці не ўпершыню зямля беларуская пачынае выконваць сваю асноўную функцыю — быць зямлёй Бацькаўшчыны. Мы ўсе — этнічныя ці не этнічныя беларусы — адчуваем, што маем апору, глебу, якая заўсёды ўтрымае нас на зямлі.

**Б. С.** — Ёсць народ, дзеля якога жывём і працуем.

**М. Г.** — Няважна, дзе жыве беларус. Важна, каб у ягоным сэрцы заўсёды знаходзілася Беларусь. Не трэба ж забываць, што за межамі рэспублікі жыве недзе да адной трэці нацыі.

**Б. С.** — Беларус у любым кутку планеты павінен адчуць, што тут, на Беларусі, яго радзіма...

**М. Г.** — Што яго карані ў Беларусі. Усе народы, усе нацыі падобнай думкі прытрымліваюцца. Гэта мы, беларусы, позна ўсё зразумелі. Але лепш позна, чым ніколі. Трэба ў іншых вучыцца. Возьмем тую ж Польшчу. Увесь свет прыязджае сюды на розныя курсы, семінары. Тое ж робяць венгры, французы. Францыя нават для тых, хто вывучае французскую мову ў іншых краінах, праводзіць конкурсы. Пераможцы атрымліваюць пуцёўкі, у іх з'яўляецца магчымасць сустрэцца з вядомымі пісьменнікамі, дзеячамі культуры. Трэба лепш прапагандаваць беларускую мову, каб яе гучанне было знаёма іншым народам. Час тварэння прыйшоў. Неабходна клапаціцца, каб настала сапраўднае яднанне ўсіх беларусаў на адзінай літаратурнай мове.

**Б. С.** — Наколькі вядома, Мікола, ты даўні чытач «ЛіМа». Расце папулярнасць штотыднёвіка, што не можа не радаваць. Твае пажаданні рэдакцыі...

**М. Г.** — Трымаць так і надалей. Такога «ЛіМа», такіх матэрыялаў беларусы чакалі даўно. Мая парада — не трэба адхіляцца ні «ўлева», ні «ўправа». «ЛіМ» знайшоў свой твар і гэта важна. Хацелася б толькі параіць — больш пісаць пра тых беларусаў, што жывуць за межамі рэспублікі. Няхай гэта і не першай велічыні дзеячы, але яны робяць вельмі і вельмі шмат. Няблага таксама, калі будуць перагледжаны некаторыя стэрэатыпы. Скажам, возьмем Пятра Мсціслаўца і Івана Фёдарава. Яны ж з адных і тых жа мясцін. Да ўсяго, продкі Івана Фёдарава недзе з Міншчыны. Час і на М. Глінку зірнуць новымі вачыма, пагаварыць пра яго беларускія вытокі.

**Б. С.** — Не забываць пра беларусаў у Аўстраліі, Англіі, Амерыцы...

**М. Г.** — «Беларусы ў свеце» — такія публікацыі заўсёды будуць сустрэты з цікавасцю.

**Дыялог запісаў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*Музыка*

# ДЛЯ ЧАГО ТЫ ПРЫЙШОЎ...

**Народнаму артысту СССР Яўгену ГЛЕБАВУ — 60**



«...ДРУГ! ДЛЯ ЧАГО ты прыйшоў?.. А калі не перастане грукаць, нічога вам не даючы, выкіньце яго ў цемру знешнюю!..»

Я знайшоў гэтыя радкі ў Евангеллі ад Марка Серабра, ананімнай прозе XII стагоддзя. Гэты старажытны матыў — як напамінак нам пра месца мастака ў грамадстве, пра значнасць шчодрасці або скупасці ягонага таленту. Так, друг: калі ты прыйшоў госцем на гэтую зямлю, нічога не даючы людзям, дык наканавана табе доля выкінутага.

Калі аналізуеш творчасць Яўгена Глебава, дык разумееш, што прыйшоў ён да людзей не парожнім, і прынёс і раздае штосьці ўзвышанае, патрэбнае, без чаго душа чалавека не можа існаваць. Успомнім хоць бы ягоную шчодрасць у самых папулярных, самых дэмакратычных жанрах: «Залатая восень», «Дом мой — сталіца», «Белы ветразь», «Начны дыліжанс», музыка да кінафільмаў «Апошняе лета дзяцінства» і «Вянок санетаў»... Колькі сапраўднага пачуцця закладзена тут!

Можна звярнуцца і да буйных форм музычнай творчасці, напрыклад, да балета «Ціль Уленшпігель», бясспрэчнай вяршыні Я. Глебава. Вобразная сфера музыкі балета зрокава-кінематаграфічная, знойдзеныя кампазітарам характарыстыкі — трапныя, адзіна магчымыя варыянты для раскрыцця патрэбнага вобраза. Музычная мова досыць экспрэсіўная, выразная. Я магу сёе-тое і не прымаць у музыцы балета «Ціль Уленшпігель», напрыклад, празмерную расфарбоўку партытуры, недастатковую, на мой густ, пранікнёнасць лірычных тэм, пэўную аднапланавасць інтанацыйнага ладу ўсяго балета. Але я не магу не адзначыць найвысокае мастацтва збудавання Я. Глебавым музычнага «двухгадзіннага гмаху», дасканаласць ягоных контураў, логіку кантрастаў.

Аднак я пачаў свой распавяд з лёгкай музыкі Я. Глебава. І невыпадкова. Успомнім, што пісаў К. Бацюшкаў пра ўплыў «лёгкай» паэзіі на сучасную яму мову: «Неапрацаваная мова, якая мяняецца са змяненнем грамадства, вымагае «Анакрэонавай музы», прывабнай слоўнаю раскошай...» Правядзём аналогію з балетамі Я. Глебава. Так, тут яго лірычным тэмам, на мой погляд, бракуе пранікнёнасці музыкі той жа «Залатой восені», той прыгожай шырыні, прасторы, без якіх жыццё не жыццё і Глебаў не Глебаў. Але ж і з тым матэрыялам, што сканцэнтраваў ён у сваіх балетах, слухачы не сумуюць — дзякуючы велізарнай працы, майстэрству кампазітара, мастака.

Так, поспех музыкі Я. Глебава неаддзельны ад прафесійнага ўзроўню ягонага майстэрства. Калі, скажам, песеннік піша свае восем тактаў, затым іх аранжыруе хтосьці іншы, а потым нехта яшчэ выконвае гэтыя такты, дык той жа Глебаў укладае неверагодную працу ў стварэнне партытуры (ці то балета, ці то музыкі для кінаэкрана, ці то песні), даводзіць яе да гранічнай дакладнасці (праз трапныя ўмоўныя пазначэнні), затым сочыць, каб пры выкананні тое, што гучыць, адпавядала задуманаму і напісанаму. Вось у чым розніца паміж працай кампазітара-песенніка і кампазітара-сімфаніста.

НЕ ВЕДАЮ, як атрымалася: мабыць, музыказнаўства, а мабыць, і нешта іншае спарадзіла меркаванне пра нецярпімасць кампазітараў да крытыкі. Вядома, цяжка знайсці наогул чалавека, якому падабалася б, калі з яго публічна смяюцца, вешаюць біркі, проста называюць непатрэбнымі словамі. Гэтаксама ўспрымаецца і адваротнае — захвальванне, неаб'ектыўнае ўхваленне. Вось такое «адмаўленне адмаўлення»: з аднаго боку — барані божа ганіць, трэба хваліць, з другога — барані божа хваліць, трэба ганіць! Такая філасофія сведчыць пра няплённасць канонаў крытыкі. Я вось думаю: ніводнаму сапраўднаму падарожніку не ўспадзе на думку ганіць або хваліць прыроду, калі напаткае ён мора ці горы! Ён будзе спасцігаць ці пераадольваць іх, але ў той жа час — і захапляцца! Крытыкі ж у нас заблыталіся ў фальшывай палітыцы: быць у фаворы ў начальства; адчуваць сваю беспакаранасць за наклейванне цэтлікаў; лічыць добрым тонам асабістую непрыязнасць да таго ці іншага суб'екта; ужываць нахабна-ўмоўнае вызначэнне — «не пераконвае», што цалкам адмаўляе зробленае творцай; замацоўваць за сабою славу «майстра біць па зубах».

Неаднойчы быў я сведкам эмацыянальнага ўздзеяння музыкі Я. Глебава на слухачоў. Неаднойчы чытаў рэцэнзіі на ягоныя творы Але «палітыкі» чамусьці сярдзіта адмоўчваліся або, калі браліся за пяро, ўсчыналі непамерную пахвальбу, сярод якой не знаходзілася хоць слова цвярозай ацэнкі творчасці кампазітара. У Крамлёўскім палацы з'ездаў, дзе ішоў балет Я. Глебава «Маленькі прынц», я бачыў замежнага турыста, які апладзіраваў спектаклю і ўзрушана гукаў: «Глебо-о-ов!!!» Крытыка ж наша не дала праўдзівай ацэнкі музыцы «Маленькага прынца». Як не дала ацэнкі творчасці Я. Глебава за многія гады яго жыцця ў мастацтве.

Зрэшты, і кампазітарская арганізацыя Беларусі яшчэ не вырашыла для сябе — хто ёсць Яўген Глебаў, якая яго роля ў станаўленні кожнага кампазітара паасобку. Бо не сакрэт жа, што ў прафесійным майстэрстве, якое мае высокую каштоўнасць для творчасці, Глебаў узняўся на адну з вышыняў, даступную далёка не кожнаму. І хоць кампазітар адзначаны высокімі тытуламі, ацэнка ягонай творчасці далёка не акрэсленая, не відавочная, і якую пазіцыю займаюць у гэтым людзі, паядналыя ў Саюз кампазітараў — загадка! Думаю, што з-за гэтай загадкі ўзнікаюць і пэўныя, часам скандальныя непаразумеласці ў нашым саюзе...

Часам у нас чуваць такія галасы: маўляў, нам бракуе сваіх Канчэлі, Торміса і г. д. Ды я ўпэўнены, што там, дзе працуюць Г. Канчэлі ці Э. Торміс, гэтаксама чуваць галасы: не хапае, маўляў, Шастаковіча, ці Пракоф'ева, ці Свірыдава... Вядома, на відавочнае, на, так бы мовіць, аголенае ўсе вочы глядзяць адкрыта. Але ж ёсць рэчы, прыхаваныя ад простага позірку. І для таго, каб у іх разабрацца, патрэбны талент «унутранага бачання», высокая інтуіцыя і эрудыцыя, талент разумення. Вось праляжаў жа 150 гадоў «на паліцы» нікім не заўважаны І.-С. Бах! І амаль 70 гадоў была адлучана ад мастацтва праваслаўная харавая класіка. Хіба толькі зараз мы пра яе даведаліся? І хіба цяпер усё, дзе ёсць словы «Гоcпадзі, памілуй!», зрабілася спрэс выдатным?

Адсутнасць сістэматычнай культуры пазнання штурхае нас з крайнасці ў крайнасць. У такіх умовах квітнее сапраўдная анархія поглядаў на мастацтва. У такіх умовах пачатковец, прыняты ў Саюз кампазітараў, «тыцкае» свае правы майстру, стваральніку часцінкі нашай музычнай культуры, не зважаючы на ўзроставыя і этычныя паняцці, патрабуе: «А мне?!.. А я?!..» Некалі П. Вяземскі налятаў на байкара І. Крылова, і А. Пушкін дакорліва казаў: «Грэх табе зніштажаць нашага Крылова». А як паводзім сябе мы ў аналагічнай сітуацыі?.. Ох, гэтыя загадкі нашай кампазітарскай арганізацыі!

Для таго, каб крытыкаваць, трэба самому мець нешта за душою і не забывацца на чалавечнасць. А пра якую чалавечнасць можна гаварыць, калі, выконваючы «заданне зверху», крытык даводзіць у друку наконт вядомага кампазітара-песенніка: за што б, маўляў, той ні браўся, ва ўсім ён пакідае адметны след. Калі зусім беспадстаўна называе колішняга адказнага сакратара СК БССР сімфаністам — на старонках цэнтральнага часопіса. Калі паслядоўна, у розных выданнях, зніштажае новы буйны твор аўтара, якога «можна біць»... Згадаю між іншым, што чалавецтва даравала Ж.-Ж. Русо ягоныя памылкі за ягоную любоў да чалавека!

ДЛЯ СТРОГА прафесійнай размовы пра музычную творчасць недастаткова, увогуле, гаворкі пра форму, змест, уражальны вынік. Для кампазітара гэта другасныя паняцці. Першаснае ж — тэхналагічная структура, умоўна кажучы, вышэйшая матэматыка кампазіцыі. Безумоўна, для слухача галоўнае — форма і змест. Для аўтара ж няма формы і зместу без умення **выткаць** твор. І, на жаль, не ўсе музыказнаўцы разумеюць гэта. Ці не таму не могуць разабрацца ў творах з пункту гледжання **творчасці**, што гэтая галіна для іх недаступная?

Вось, у рэшце рэшт, і бярэ слова калега...

Тэхналагічныя працэсы, якія фарміравалі глебаўскага «Ціля Уленшпігеля», маюць доўгія карані. У балеце «Мара» адточвалася майстэрства інструментоўкі і працы з матэрыялам, асновай якога быў часткова фальклор, часткова добры эстрадны стыль. Сімфаджазавыя кампазіцыі Я. Глебава тых гадоў жывілі балетны жанр. Уражанні тады, у 60-я гады, былі цудоўныя. У «Альпійскай баладзе» інструментальны стыль быў у нечым другасны, музычны матэрыял, за выключэннем некалькіх нумароў («Тарантэлы», «Калыханкі»),— меней забаўлівы. Як ні дзіўна, у балеце «Альпійская балада» **драматургія** была самым цэласным кампанентам. Мусіць, статычныя інтанацыі, партытура якіх не была гэтак расфарбавана, як, скажам, у «Мары» ці ў харэаграфічнай навеле «Мушкецёры», стваралі належны вобраз і станоўча ўплывалі на ўспрыманне твора ў цэлым.

Нястомны Глебаў працягваў пошукі моўных сродкаў і стварыў «Выбранніцу». Так, у ёй, як дасюль падкрэсліваюць крытыкі, было багата Стравінскага. Але быў і Глебаў, ды яшчэ які! Так, былі і перайманні аркестра «Вясны свяшчэннай». Але ўсё было па-свойму! Канечне, мне не пераканаць нікога з тых крытыкаў, што «Выбранніца» не падобная да «Вясны свяшчэннай» І. Стравінскага. Але для мяне зусім відавочна тое, як Глебаў спрабаваў сінтэзаваць сваё і не сваё. Бліскуча «размаўляючы» аркестрам, ён уносіў беларускую музычную

---

**Калі год назад ад «Беларусьфільма» аддзяліўся гурт мультыплікатараў, шмат хто ўспрыняў гэта як здарэнне незвычайнае і нават надзвычайнае. Праўда, прайшло гэтае адмежаванне спакойна: толькі для тых, хто цікавіцца беларускім кінематографам, засталося загадкай — што ж адбылося на «Беларусьфільме»? Гэта пытанне — да Алега БЕЛАВУСАВА, мастацкага кіраўніка беларускіх мультыплікатараў, ці як называюць іх ва ўсім свеце, аніматараў.**

# БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ АНІМАЦЫІ

**— Асновай для аддзялення перш за ўсё сталіся рашэнні V з'езда кінематаграфістаў краіны, які абвясціў права творчых калектываў на самастойнасць. Што да прычын або падстаў, дык першая і асноўная — эканамічная. Створаныя намі, напрыклад, у 1988 годзе стужкі — усе — адпавядалі першай катэгорыі якасці (гэта значыць, што дзесяць працэнтаў ад зробленых стваральнікамі карцін грошай павінны былі заставацца ў кішэні калектыву; у натуральным выяўленні гэта каля 4,5 тысячы рублёў за кожную стужку). Такой сумы наш калектыў не пабачыў. Калі мяне абралі мастацкім кіраўніком студыі мультфільмаў, я запэўніў калег, што даб'юся для калектыву самастойнасці, даб'юся, каб зробленыя ім грошы не ішлі ў «агульны кацёл» «Беларусьфільма», чытайце — на ўтрыманне яго кіруючага апарату. Ёсць і другая прычына — маральна-этычная. З самага пачатку існавання гурта мультыплікацыі стаўленне да яго было, як да нероднага дзіцяці. Піянеры жанру ў рэспубліцы, мы не былі спешчаныя ўвагай. Не ставала кампетэнтнай парады, падбадзёрваючага слова. Для вырашэння самых простых пытанняў па здымцы фільма нярэдка даводзілася ездзіць у Маскву...**

**За гады існавання нам удалося згуртавацца ў цэласны творчы калектыў. Нашы стужкі пачалі трапляць на фестывалі. «Лафертаўская макаўніца» Алены Марчанкі, «Не шамацець!» Таццяны Жыткоўскай, «Капрыча» Ігара Волчака і іншыя мультфільмы атрымалі шырокае прызнанне гледачоў і крытыкаў. Але, нягледзячы на гэтыя ўдачы, наша матэрыяльная база заставалася кволай. Здымалі старымі недасканалымі камерамі, месца якім, самае лепшае, у музеі. Вялікую колькасць нашага абсталявання складалі самаробкі. Да таго ж умовы нашай працы не адпавядалі ніякім санітарным нормам. Нашы цяжкасці ўбачылі і зразумелі людзі, далёкія ад кінематаграфіі, але ўлюбёныя ў мастацтва. Генеральны дырэктар мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» В. І. Шаплыка прапанаваў нашай студыі перабрацца пад дах яго ўстановы...**

— І як склаліся адносіны з калектывам НВА? Ці знайшлі вы там тое, што шукалі?

**— Да пераходу ў памяшканне НВА студыя мультфільмаў свайго рахунку ў банку не мела. Акрамя памяшкання, нам прадаставілі сёе-тое з абсталявання, нарэшце мы адкрываем свой рахунак. Але галоўнае — набылі магчымасць спакойна працаваць. Работнікі прадпрыемства ў асноўным са спагадаю і разуменнем паставіліся да нашага прыходу, хоць не абышлося і без таго, што хто-ніхто палічыў: зваліліся на галаву нахлебнікі...**

— Ці гарантуе сённяшняя матэрыяльная трываласць студыі заўтрашнія поспехі?

**— Тут далёка не ўсё залежыць толькі ад матэрыяльнага становішча, хоць і гэта не апошняе пытанне ў творчай справе. Больш залежыць менавіта ад стану душы, ад творчага патэнцыялу. Некаторыя лічаць, што ў анімацыі сабраліся няўдачнікі, не здольныя працаваць у іграным кіно. Вядома, гэта абраза. Не кожны глядач здольны прыгадаць імёны стваральнікаў «мульцікаў», але ж творчыя знаходкі аніматараў (мультыплікатараў) могуць спрачацца з лепшымі ігравымі фільмамі. Але гэта ўсё, як мовяць, знешнія фактары. Што тычыцца «ўнутраных», дык працаваць стала значна спакайней. Кожны з пяцідзесяці чатырох чалавек, нарэшце, адчуў сябе асобай, адказнай за агульны поспех калектыву. Мы імкнёмся, каб беларуская анімацыя мела сваё непаўторнае аблічча. Сёння ўваскрасае тое спрадвечнае, што заўсёды было ўласціва беларусам — іх высокі інтэлектуальны патэнцыял і культурны ўзровень. І хоць беларускую анімацыю крытыкуюць за элітарнасць, складанасць (маюцца на ўвазе менавіта нашы лепшыя стужкі), я лічу, што яна павінна такой і застацца, бо здольнасць народа мысліць высокімі катэгорыямі павінна і выяўляцца адпаведнай мастацкай мовай. Папрокі ў тым, што ў беларускім кіно няма адзінай мастацкай школы, не могуць быць прызнаны вартымі ўвагі. Творчая самабытнасць каштоўней за наўмыснае прычэсванне адзіным грабянцом.**

— Што ў планах студыі?

**— Віктар Доўнар і Наталля Лось працуюць над карцінай**

*Водгукі, палеміка*

# Аб «дзевяці тэзісах» Уладзіміра Конана

7 ЛІПЕНЯ 1989 г. «Літаратура і мастацтва» апублікавала падборку матэрыялаў абвешчанага на з'ездзе ў Вільнюсе (24—25 чэрвеня 1989 г.) так званага «Беларускага народнага фронту» («Адраджэнне»). Адно з галоўных месц у гэтай падборцы займаюць «Дзевяць тэзісаў» доктара філасофскіх навук У. Конана, значэнне якіх ён сам акрэслівае падзагалоўкам: «Спроба філасофскага абгрунтавання руху «Адраджэнне». Праўда, замест філасофскага абгрунтавання аўтар у большасці выпадкаў заняўся экскурсамі ў гісторыю, робячы пры гэтым невядомыя раней «адкрыцці» ў навуцы. Разгледзім іх у такім парадку, як падаюцца самі тэзісы.

1. Адно з ленінскіх вызначэнняў дзяржавы, як машыны «для падтрымання панавання аднаго класа над другім», аўтар стасуе да ўсіх тыпаў дзяржаў, нічога не гаворачы пра нашу сучасную сацыялістычную агульнанародную дзяржаву. Ён, такім чынам, замоўчвае тое палажэнне, што ў Савецкім Саюзе цяпер няма «панавання аднаго класа над другім». Усё гэта спатрэбілася аўтару для «гістарычнага абгрунтавання» (у наступных тэзісах) таго, што ў некаторых рэспубліках узніклі так званыя «народныя франты». Дык супраць «панавання» якіх класаў над якімі будуць змагацца гэтыя франты, калі ў нас няма ні пануючых, ні прыгнечаных класаў?

2. У гэтым тэзісе прыводзіцца найбольш гістарычных фактаў і робіцца найбольшая колькасць памылак. Па-першае, аўтар у даным кантэксце няправільна ўжывае слова «народ» (гэта амонім, які мае некалькі значэнняў). Калі гаворка ідзе пра абмежаванне ўлады феадалаў, то за гэта змагаецца не ўвесь народ, супраць феадалаў выступаюць прыгнечаныя (або абмежаваныя ў правах) саслоўі і класы. Па-другое, у гэтым тэзісе аўтар зноў разглядае дзяржаву, якая заўсёды імкнецца заняць становішча «над грамадствам», якая ўступае ў супярэчнасць з народам. Але ж эксплуататарскія дзяржавы ўступаюць у супярэчнасць не з усім народам, а толькі з прыгнечанымі, падпарадкаванымі эксплуататарам класамі, і зноў аўтар не выключае з гэтых сваіх абагульненняў сацыялістычную агульнанародную дзяржаву. Па-трэцяе, дзяржавы (да сацыялістычнай усенароднай) ствараліся не ўсім народам, а тымі класамі, якія змагаліся за ўстанаўленне сваёй улады.

Па-чацвёртае, аўтар да дзяржаўнай улады пры феадалізме залічвае толькі адзінаасабовую ўладу князёў і цароў. Вось чаму ён любое абмежаванне такой улады кваліфікуе як імкненне да народнага самакіравання нават і тады, калі такая ініцыятыва выходзіць ад саміх феадалаў. Аўтар да такіх «народных самакіраванняў» залічыў сеймы Рэчы Паспалітай (якія былі органамі абмежавання шляхтай адзінаасабовай улады караля) і нават земскія саборы дапятроўскай Русі (у тэксце чамусь: Расіі), якія з'яўляліся прадстаўнічымі органамі пануючых саслоўяў і класаў для абмежавання адзінаасабовай улады цара, для аб'яднання ўсіх феадальных сіл з мэтай больш паспяховай барацьбы супраць нарастаючага народнага руху, з мэтай поўнага і канчатковага запрыгоньвання сялянства. І вось у такіх земскіх саборах У. Конан спрабуе знайсці аднаго з папярэднікаў «Беларускага народнага фронту».

Па-пятае, у адзін рад з сеймамі і земскімі саборамі аўтар паставіў веча ў Полацку і Ноўгарадзе, чамусьці назваўшы абодва гэтыя гарады княствамі. Між тым, Ноўгарад і іншыя цэнтры з падобным дзяржаўным ладам у гістарычнай навуцы атрымалі назву феадальных рэспублік. Там уся ўлада ў асноўным належала баярам ды буйным купцам. Князёў туды часова запрашалі (заклікалі) з суседніх княстваў для кіравання ўзброенымі сіламі. Веча (як агульнагарадскі сход) у Ноўгарадзе і падобных да яго цэнтрах выкарыстоўвалася эксплуататарамі (баярамі ды багатымі купцамі) для «дэмакратычнага» прыкрыцця выбараў з іх асяроддзя прадстаўнікоў вышэйшых органаў (і асоб) дзяржаўнай улады (пасаднікаў, тысяцкіх і іншых). Такім чынам, і гэты агульнагарадскі сход (веча) насуперак сцвярджэнням У. Конана не быў «народным самакіраваннем» і не меў магчымасці мірным шляхам «абмежаваць дзяржаўную ўладу» феадалаў. А гэта таксама сведчыць аб тым, што і веча сярэдніх вякоў не падыходзіць у якасці папярэдніка «Беларускага народнага фронту».

Па-шостае, яшчэ больш заблытаўся аўтар у «лабірынтах» старажытнай гісторыі, калі прывёў у якасці прыкладу «народныя сходы ў антычнай Грэцыі» ўсё дзеля таго ж «абгрунтавання» свайго «БНФ». Калі размова ідзе пра народныя сходы, паказаныя ў гамераўскай Іліядзе, то тады яны дзейнічалі яшчэ ў працэсе пераходу ад першабытнага да класавага грамадства. Пазней, у перыяд развітога рабаўладальніцкага ладу, дэмас (народ) уваходзіў у сістэму эксплуататарскіх слаёў, што існавалі, карыстаючыся працай прыгнечанага класа рабоў. Такім чынам, і там «народныя сходы», што абмяжоўвалі ўладу асобных дзяржаўных дзеячаў, былі таксама атрыбутам рабаўладальніцкай дэмакратыі.

Нарэшце, нельга не адзначыць вольнае карыстанне У. Конана летапіснымі тэкстамі. Вядомае летапіснае выслоўе: «Земля наша велика и обильна, а наряда (порядка) в ней нет...» ён перадаў наступным чынам: «Зямля наша багатая і шчодрая, але няма ў ёй парадку (народу)»... Так, замест «велика» з'явілася ў беларускім перакладзе... «багатая» (?), замест «наряд» (па-беларуску «нарад») з'явілася слова «народ».

Дык дзе ж тут з такімі адносінамі да гістарычных фактаў спрабаваць яшчэ выкарыстоўваць іх для «абгрунтавання» «руху» «Адраджэнне»?

3. У. Конан лічыць, быццам татара-мангольскае іга нават пасля яго звяржэння працягвала з'яўляцца адной з прычын «шматвяковага трагічнага разрыву паміж уладай і народам» (царскае самаўладдзе і апрычніна Івана Грознага, бюракратычны апарат пасляпятроўскай Расіі). Але як можа аўтар дапускаць нават думку аб тым, нібыта да татара-мангольскага іга, ва ўмовах ранняга феадалізму, на рускіх землях не было «разрыву» паміж правячымі саслоўямі князёў, баяр, духавенства і працоўнымі слаямі насельніцтва. Гэтыя антыгістарычныя «канцэпцыі» цяпер, на жаль, запазычваюцца некаторымі прадстаўнікамі нашай інтэлігенцыі з нацыяналістычных, антырускіх твораў У. М. Ігнатоўскага, які сцвярджаў, што ўзвышэнне Маскоўскай Русі прывяло там да ліквідацыі «вечавога народапраўства», але яно працягвала быццам бы захоўвацца ў Вялікім княстве Літоўскім.

# Аб «антытэзісах» Адама Залескага

ШЧЫРА прызнаюся: не хачу я спрачацца з прафесарам А. Залескім і надалей буду пазбягаць «навуковага дыялога» на такім узроўні. У час цікавы, дынамічны, калі не паспяваеш знаёміцца з новымі ідэямі, смелымі канцэпцыямі і глабальнымі прагнозамі, доктар навук прапануе дыскусію вакол нейкіх фрагментаў з «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

Анахранізм такой дыскусіі як быццам бы прадчуваў і А. Залескі, палеміст вопытны ў сваім родзе (а ў якім — чытач даведаецца пазней). Вось ён, як кажуць, «закінуў вудачку»: маўляў, актывісты БНФ (маецца на ўвазе Беларускі народны фронт за перабудову «Адраджэнне») пазбягаюць дыялога са «сваімі ідэйнымі праціўнікамі». Хоць я, на жаль, не такі ўжо і актывіст, аднак мой маральны густ прымушае быць не з тымі, хто цкуе і гоніць, а з тымі, хто высакародна пераносіць ганенні, нават не адказвае на інсінуацыі, замаскіраваныя пад «ідэйную барацьбу».

Вось і цяпер прыходзіцца мець справу не з навуковымі аргументамі, а з тэндэнцыйнымі абвінавачаннямі з боку А. Залескага. Аднак жа і такога роду «контртэзісы» майго апанента даюць мне шанц дапоўніць сваё ранейшае выступленне.

Агульны тон такой «крытыкі» разлічаны на чытачоў наіўных, якія сур'ёзна паверылі б, што толькі А. Залескі валодае гістарычнай (філасофскай, палітычнай і яшчэ нейкай) ісцінай, а вось аўтар, якога ён крытыкуе, «робіць найбольшую колькасць памылак», няправільна карыстаецца паняццем «народ», ігнаруе «сацыялістычную агульнанародную дзяржаву», «заблытаўся ў лабірынтах» старажытнай гісторыі, выяўляе «антыгістарычную канцэпцыю», не бачыць розніцы «паміж буржуазна-дэмакратычнай і сацыялістычнай рэвалюцыямі», абвінавачвае «сучасных рускіх патрыётаў», напаўняе свой артыкул «перламі», адмаўляецца «ад класавага падыходу», урэшце, не адпавядае «свайму службоваму становішчу».

Ёсць у рыторыцы стылістычная фігура: клімакс. Сутнасць яе — у расстаноўцы слоў у фразе або фраз у прамове адпаведна ўзмацненню іх значэння. Дык вось, клімакс сталіністаў абавязкова завяршаўся палітычнымі абвінавачваннямі і службовым даносам. Быў час, была «эпоха», калі тыя, хто пападаў у поле гэткай «крытыкі», канчалі Курапатамі, гулагамі, «псіхічкамі»...

У канцы свайго артыкула А. Залескі «хацеў бы, каб наш дыялог атрымаўся навуковым па змесце і як мага больш інтэлігентным па форме». Мабыць, гэта жарт, так сказаць, палемічная іронія? Тады я магу Вас, паважаны прафесар, зразумець, хоць, пагадзіцеся, у такім жарце ёсць пэўная доза цынізму. Калі ж Вы «сур'ёзна і надоўга» збіраецеся на такім узроўні наладжваць «дыялог», то, як кажуць, пабойцеся Бога — у тым значэнні, у якім часам прымяняў гэтыя словы «разумны ідэаліст» Кант: у сэнсе «маральнага закона ўва мне». Бо, як Вы пішаце, «няхай чытачы памяркуюць», чаго тут больш — «навуковага зместу» ці нечага іншага, запазычанага з гатовых сцэнарыяў 30-х і пазнейшых гадоў.

Спадзяюся, што я тут не пакрыўдзіў майго апанента, бо ён перакананы: у тыя сталінскія часы «Савецкі Саюз заставаўся сацыялістычнай дзяржавай», «народныя масы будавалі Днепрагэс, Урала-Кузнецкі камбінат, Турксіб, Камсамольск-на-Амуры, Хабараўскі трактарны і Горкаўскі аўтамабільны заводы». А што гэткаму казарменнаму сацыялізму былі прынесены ахвяры, большыя за ўсе нашы чалавечыя страты ў дзвюх сусветных войнах, што сталінская мафія ліквідавала сялянства як клас, аднавіла рабства ў бясконцых канцлагерах і прыгонніцкія адносіны ў вёсцы, — усё гэта для паважанага прафесара толькі «правапарушэнні», у горшым выпадку «дэфармацыі».

Я не згодзен з такімі старамоднымі тлумачэннямі нашай гістарычнай драмы. Бо ўпэўнены: крытэрыем рэальнага сацыялізму можа быць толькі сацыяльнае і прававое становішча рэальнага чалавека, яго духоўная каштоўнасць; а яна была тады якраз абясцэнена. Што ж датычыцца індустрыяльных гігантаў і нават эканамічнага дабрабыту «народных мас», то нямецкія нацыянал-сацыялісты мелі ўжо нешта большае, чым наша краіна перыяду «сталінскай канстытуцыі». Напомню Вам, паважаны прафесар, што Сталін вынішчыў не толькі нацыянальную інтэлігенцыю, якая здзейсніла пачатае ў Кастрычніцкай рэвалюцыі духоўнае адраджэнне народаў, але і большасць пачынальнікаў рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва.

Калі Вы, Адам Іосіфавіч, сцвярджаеце, што сталінскі рэжым быў «сацыялістычнай дзяржавай», то адкажыце на пытанне: чаму сёння для нас спатрэбілася яшчэ адна, цяпер ужо бяскроўная сацыялістычная рэвалюцыя ў форме перабудовы, вяртанне да эканамічных, сацыяльна-палітычных і маральных прынцыпаў, якія складаліся да «эпохі Сталіна», рэабілітацыя мільёнаў сталінскіх ахвяр, дэмантаж сталінскай каманда-бюракратычнай сістэмы гаспадарання і дзяржаўнага кіравання, аднаўленне сялянства як класа і разбуранай пры Сталіне сельскай гаспадаркі, замена тыраніі і рабскага маўчання прававой дзяржавай і галоснасцю?

Мабыць, Вы супраць усяго гэтага? Тады скажыце нам адкрыта, каб наш дыялог сапраўды атрымаўся, калі ўжо не «навуковым па зместу», то хоць «інтэлігентным па форме». Наколькі мне вядома, Вы чалавек дастаткова смелы, каб ісці супраць гістарычнай плыні. Бо справа ж не ў маіх сціплых «дзевяці тэзісах» і нават не ў беларускім руху за перабудову, а ў самой гэтай перабудове.

Прызнаюся, толькі ў адным месцы А. Залескі падлавіў мяне... на памылцы друкарскага набору, па майму недагляду (не чытаў карэктуры, ды і газета не заўсёды мае магчымасць даваць яе аўтарам, асабліва пры публікацыі аператыўных выступленняў). У фразе «...а наряда (порядка) в ней нет» слова «наряд» сапраўды па-беларуску — не «народ», а таксама «нарад». Так яно і ёсць у маім рукапісным арыгінале, у гэтым можа пераканацца мой крытык. Аднак жа за публікацыю адказвае аўтар, і я ў дадзеным выпадку дзякую апаненту, а ў чытача прашу прабачэння. Але якую выснову робіць мой крытык з гэтай відавочнай для чытача, а тым больш для такога вопытнага, як прафесар Залескі, апіскі? Вось яна: «Дык дзе ж тут з такімі адносінамі да гістарычных фактаў спрабаваць яшчэ выкарыстоўваць іх для «абгрунтавання» «руху» «Адраджэнне»?

Не перажывайце, паважаны прафесар, за лёс «Адраджэння», сама гісторыя абгрунтуе яго без нашага з Вамі «інтэлігентнага па форме» дыялога. Асабліва калі і надалей яго праціўнікі будуць карыстацца абывацельскімі выдумкамі, а для «дасціпнасці» браць у двукоссе «рух», дабаўляючы да яго бездапаможнае «так званы».

У заключэнне адкажу на асобныя «канкрэтныя» заўвагі майго крытыка — не так для яго, як для чытача. Ленінскае вызначэнне дзяржавы як «машыны для падтрымання панавання аднаго класа над другім» — не адно з іншых, як думае А. Залескі, а галоўнае і сутнаснае. Я не «стасую» яго да нашай агульнанароднай дзяржавы, перад якой сёння яшчэ толькі ставіцца высакародная задача — стаць прававой дзяржавай. Аднак жа Ленін не аб-

**Другі раз у паслякастрычніцкай гісторыі беларускага народа перад ім стаяць задачы нацыянальнага адраджэння. Сёння мы можам прааналізаваць урокі першай беларусізацыі. «ЛіМ», як вядома, ужо звяртаўся да гэтай тэмы ў артыкулах А. Цітова «Так пачыналася адраджэнне...» і Л. Лыча «Беларускай мове—статус дзяржаўнай». У артыкуле А. Цітова ўпершыню для шырокага чытача прыводзіліся цікавыя прыклады таго, як праходзіла беларусізацыя, але аўтар не ставіў сваёй мэтай глыбока прааналізаваць яе сутнасць.**

*Гісторыя вучыць...*

**Мікола ІВАНОЎ,**
**доктар гістарычных навук**

# НА ДЗЯРЖАЎНАЙ АСНОВЕ

**Аналізуючы працэс беларусізацыі 20-х гадоў**

ПЕРШАЙ і самай галоўнай адметнай рысай беларусізацыі 20-х гадоў з'яўляўся актыўны ўдзел у ёй непасрэдна рэспубліканскай партыйнай арганізацыі. У спецыяльнай пастанове Бюро ЦК КП (б) Б, прынятай у студзені 1925 года, падкрэслівалася, што партыя павінна ісці ў авангардзе беларусізацыі, а «ўсе члены партыі, якія валодаюць беларускай мовай, павінны ў сваіх выступленнях карыстацца пераважна беларускай мовай». Улічваючы авангардную ролю партыі ў савецкім грамадстве, толькі такая канкрэтная тактыка магла прынесці поспех беларусізацыі. Вопыт правядзення тагачаснай палітыкі партыі вельмі актуальны сёння. Ён выразна сведчыць пра тое, што ў нашых умовах намаганні паасобных прадстаўнікоў інтэлігенцыі і моладзі, а таксама пастановы міністэрстваў народнай адукацыі і культуры не прывядуць да канкрэтных поспехаў, пакуль усе захады шчыра і адкрыта не будуць падтрыманы партыяй.

Пад кіраўніцтвам партыі беларусізацыя ажыццяўлялася ў рэспубліцы як велізарная грамадска-палітычная кампанія. У ёй удзельнічалі дзесяткі тысяч актывістаў: партыйных прапагандыстаў, настаўнікаў, так званых «ізбачоў» (калька з рускай мовы, якая азначала кіраўнікоў хат-чытальняў), камсамольцаў і... дзеячаў беларускіх незалежных партый і палітычных груповак. Апошнія, зрэшты, успрынялі беларусізацыю як сваю «кроўную» справу і канчаткова адмовіліся ад канфрантацыі з Савецкай уладай. Самая шматлікая і ўплывовая з гэтых груп — партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) — у чэрвені 1924 г. правяла ў Мінску свой надзвычайны з'езд, на якім заявіла аб самароспуску і заклікала ўсіх сваіх членаў да актыўнага ўдзелу ў беларусізацыі, да спынення ўсякай варожай дзейнасці супраць Савецкай улады на Беларусі. Падобны працэс адбыўся і ў асяроддзі беларускай палітычнай эміграцыі, кіраўнікі якой у кастрычніку 1925 г. склікалі ў Берліне II Беларускую нацыянальную нараду, прысвечаную галоўным чынам адносінам эміграцыі да працэсу беларусізацыі. Нарада гэтая, непасрэдны актыўны ўдзел у якой прымаў сам З. Жылуновіч у якасці спецыяльнага прадстаўніка беларускага савецкага ўрада, знаменавала сабой канец актыўнай барацьбы яе ўдзельнікаў супраць Савецкай улады і пачатак шчырага супрацоўніцтва паміж імі і беларускім савецкім урадам на ніве нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Пасля яе заканчэння амаль увесь эміграцыйны ўрад БНР (Беларускай Народнай Рэспублікі) на чале са сваім старшынёй А. Цвікевічам вярнуўся ў БССР, каб прыняць непасрэдны ўдзел у беларусізацыі.

У 20-ыя гады беларусізацыя ўяўляла сабой галоўны змест грамадска-палітычнага развіцця Беларускай ССР, якое цалкам адпавядала лініі партыі ў гэтым пытанні. Менавіта партыя распрацавала канкрэтныя формы правядзення беларусізацыі. Усім важнейшым дзяржаўным і грамадскім установам, а таксама прадпрыемствам і кааператыўным аб'яднанням былі ўстаноўлены канкрэтныя дакладныя тэрміны пераводу іх працы на беларускую мову. Галоўная дзяржаўная выканаўчая арганізацыя рэспублікі — Савет Народных Камісараў атрымаў год на пераход на беларускую мову. Такі самы тэрмін быў вызначаны Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту, народным камісарыятам асветы і земляробства. Народныя камісарыяты ўнутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забеспячэння атрымалі двухгадовы тэрмін, камісарыяты аховы здароўя, фінансаў і вайсковых спраў — трохгадовы.

Беларусь пакрылася сеткай дзённых і вячэрніх курсаў па вывучэнні беларускай мовы, на яе пераводзіліся сродкі масавай інфармацыі, рэспубліканская сістэма асветы, тэатры і нават кінематограф, які толькі яшчэ нараджаўся. Важным было тое, што на беларускую мову была цалкам пераведзена сістэма ліквідацыі непісьменнасці. Непісьменны селянін атрымаў магчымасць мець доступ да ведаў на сваёй роднай мове.

Другі вельмі важны і актуальны сёння аспект беларусізацыі, які не знайшоў свайго адлюстравання ў папярэдніх публікацыях «ЛіМа», заключаецца ў наступным. Беларусізацыя, зразумела, адпавядала нацыянальным імкненням беларускага народа, але яе ажыццяўленне не з'яўлялася вынікам беларускай мясцовай ініцыятывы, як сцвярджае ў сваім артыкуле А. Цітоў, а было часткай агульнасаюзнай дзяржаўнай палітыкі, ініцыятарам якой быў сам У. І. Ленін. Палітыка гэта ў гістарычнай літаратуры атрымала акрэсленне «нацыянал-нэп» і заключалася ў пашырэнні правоў усіх без выключэння народаў і народнасцей Савецкага Саюза. Яна з'яўлялася вынікам паслярэвалюцыйнай эвалюцыі ленінскіх поглядаў на нацыянальнае пытанне, эвалюцыі ад абстрактнага і ў значнай ступені прапагандысцкага лозунга аб праве народаў на самавызначэнне да прызнання прыярытэту інтарэсаў нацыянальных меншасцей над інтарэсамі рускага народа і ажыццяўлення гэтых прыярытэтаў на практыцы.

На жаль, у далейшым тэрмін ленінская нацыянальная палітыка страціў сваё першапачатковае значэнне. Яго пачалі ўжываць для акрэслення сталінскіх злачынных эксперыментаў у галіне міжнацыянальных адносін, для маскіроўкі сутнасці русіфікатарскіх і іншых адмоўных працэсаў у «застойны» перыяд. Таму лічу, што вярнуць гэтаму тэрміну яго першаснае значэнне сёння ў перыяд перабудовы і галоснасці наш святы абавязак. Трэба з усёй пэўнасцю падкрэсліць: ленінская нацыянальная палітыка скончылася ў 1929—1930 гадах. Пазнейшая дзяржаўная нацыянальная палітыка, якая ажыццяўлялася ў Савецкім Саюзе, нічога агульнага з ёй не мае.

Гаспадарчая разруха, шматлікія антысавецкія ўзброеныя паўстанні ў нацыянальных раёнах, а таксама супраціўленне мясцовых партыйных работнікаў, якія заставаліся вернымі дагматычным прынцыпам падыходу да нацыянальнага пытання, не дазволілі адразу прыступіць да правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў жыццё, хоць спрыяльныя ўмовы наспелі ў 1924—1925 гадах. Менавіта на гэты час і прыпадае распрацоўка ў нацыянальных раёнах асноўных заканадаўчых актаў па пашырэнні правоў меншасцей. Палітыка гэтая складалася з дзвюх узаемазалежных частак: карэнізацыі і нацыяналізацыі. Першая азначала вызначэнне на кіраўнічыя пасады ў нацыянальных раёнах прадстаўнікоў мясцовых нацыянальнасцей, а другая — шырокае развіццё нацыянальнай культуры, увядзенне нацыянальнай мовы практычна ва ўсе галіны грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця. На Беларусі гэта палітыка атрымала, як мы ведаем, назву беларусізацыі, на Украіне — украінізацыі, у раёнах Сярэдняй Азіі — цюркізацыі, у Татарскай Аўтаномнай Рэспубліцы на Волзе і Аўтаномнай Рэспубліцы крымскіх татар — татарызацыі, у Аўтаномнай Рэспубліцы немцаў Паволжа — германізацыі і т. п. Палітыка гэта ахапіла не толькі народы, якія мелі свае дзяржаўна-адміністрацыйныя тэрытарыяльныя адзінкі, але і меншасці. Тычыцца гэта перш за ўсё яўрэяў, палякаў, грэкаў, латышоў, літоўцаў і інш. Для гэтых народаў пачала стварацца сістэма так званай экс-тэрытарыяльнай аўтаноміі, якая прадугледжвала арганізацыю нацыянальных вясковых і гарадскіх Саветаў усюды, дзе жыло больш як 500 прадстаўнікоў данай нацыянальнасці. Для больш як 10.000 прадстаўнікоў гэтых народаў закладаліся нацыянальныя раёны, на тэрыторыі якіх у рамках ленінскай нацыянальнай палітыкі ажыццяўляліся свая мінікарэнізацыя і мінінацыяналізацыя. На Беларусі, напрыклад, у канцы 20-х гадоў існавалі шматлікія яўрэйскія, польскія, латышскія, літоўскія, нямецкія і інш. нацыянальныя вясковыя Саветы. Неўзабаве быў створаны недалёка ад Мінска Польскі нацыянальны раён імя Ф. Дзяржынскага з цэнтрам у мястэчку Койданава. Былі планы арганізацыі польскага нацыянальнага раёна і на Лепельшчыне.

Аб тым, як далёка зайшло ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі 20-х гадоў, можна меркаваць на падставе некалькіх не звязаных паміж сабой фактаў. На Беларусі нават пасля прыпынення беларусізацыі практычна не засталося рускамоўных школ. У 1940 годзе ў рэспубліцы было ўсяго 7 працэнтаў школ з небеларускай мовай выкладання. У перыяд беларусізацыі ў рэспубліцы пачалася кампанія перасялення ў Крым татарскага на-

*На жыццёвых скрыжаваннях*

**Сяргей РУБЛЕЎСКІ**

# КОК-САГЫЗ

ПАСЛЯ прыезду з Кохтла-Ярве мы купілі хату на радзіме маці, у Задорах. Гэта, калі ехаць чыгункай, кіламетраў за дзвесце ад Зарэчча, нашага сямейнага котлішча. Але хутка высветлілася, што бацька, які даволі наездзіўся па свеце, нудзіцца на новым месцы, ніяк не можа прывыкнуць да тутэйшых людзей. Іншая справа, калі б дзе далёка, а тут, ля жончыных сваякоў, ды яшчэ патрапляць каму... і гэта дужа бянтэжыла маці. Неяк непрыкметна для сябе яна ўсё часцей і часцей пачала скардзіцца мне. Так і ўсплыла тая горкая гісторыя пра кок-сагыз. І я ўжо не мог дачакацца канікулаў, каб паехаць у Зарэчча.

...Станцыя была маленькай і звычайнай. Невысокая круглая вежа з чырвонай цэглы, старая замшэлая альтанка ў скверыку ля перона. Гаваркія вясковыя цёткі ахвотна паказалі сцяжыну да ўзбярэжжа ды назвалі прозвішча перавозчыка, каб я хутчэй мог выклікаць яго на гэты бераг.

Грукат ланцуга на карме двухвёселкі, усплеск вады — усё аддавалася ў маёй душы хвалюючым нязвыклым трымценнем. І вось па хісткіх драўляных сходнях я ўзыходжу на высокае ўзбярэжжа, да сваёй роднай вёскі. Ліхтар на ўскрайку, хоць і заднела, лье з-пад бляшанага брыля густое жоўтае святло. Сівыя ад пылу, які ўжо ўеўся ў драўніну, парэнчыны мастка. А вось і хата Марфы Пятроўны на ўзгорку. Праўду казаў перавозчык: такога багатага кветніка няма больш ні ў кога. Я вырашыў не заходзіць пакуль на сялібу, а прайсці ў канец вуліцы, агледзець вёску, ды намеры мае хутка расстроіліся. Калі міжволі прыпыніўся на ўзгорку, разглядаючы расквечаную, нібы велікоднае яечка, брамку, раптам з'явілася жаночая постаць. Вузенькая, амаль што дзявочыя плечукі, бялюткая хусцінка на галаве. Марфа Пятроўна падвязала матузком вяргіні, якія вызыбаліся вышэй плота. Я крыху разгублена глянуў у яе чарнявыя, у вэлюме дробных рысак-зморшчынак вочы. А яна, яна абцерла фартухом рукі і прыветліва ўсміхнулася.

— Што, дзетка? Да мяне чаго? — і падышла да брамкі.

— Я хачу ў вас прасіцца пажыць дзянькі са тры, — патупіўшы вочы, выціснуў з сябе даўно падрыхтаваныя словы. А потым, калі падалося, што надта задоўжылася паўза, спешна дадаў: — Студэнт я, старыя песні запісваць прыехаў. Грошы ў мяне ёсць, заплачу.

— Можна і ў мяне, месца хопіць, — шчыра і проста сказала Марфа Пятроўна і адчыніла брамку.

Апоўначы я засынаў на бялюткай кужэльнай прасціне і думаў, і не мог зразумець, як гэта ўсё атрымалася: колькі наважваўся, прымерваўся, а тут адчынілі — і ўвайшоў.

Назаўтра я агледзеў усё наваколле, пабываў і ў вялікім кар'еры, з якога мясцовыя жыхары спрадвеку бяруць пясок на будаўнічыя патрэбы. Дзе вы, сцяжынкі маленства? А ўзышоў на край кар'ера — успомніў. Вось мы, цыбатыя хлапчукі, нібы яшчэ слабыя падлеткі, разганяемся, скачам з гэтага абрывістага краю развінуўшы рукі, колькі імгненняў ляцім у паветры, а затым, умела падціскаючы пад сябе ногі, шлёпаемся ў сыпучы пясок на адхіле...

Увечары я дастаў блакнот і пачаў тое-сёе занатоўваць. Марфа Пятроўна сядзела воддаль, ля грубкі і размерана круціла свой калаўрот.

— Не перашкаджае грукат? — яна глянула ў мой бок і прыязна ўсміхнулася.

— Наадварот, нават рытм задае.

Мы памаўчалі.

— Андрэйка, а вы запісваеце толькі песні старадаўнія?..

Я ўзрадаваўся гэтаму пытанню і ў той жа час засмуціўся: зноў мне адказваць даўно абдуманае, як па-пісанаму.

— Праклёны таксама, Марфа Пятроўна.

— Як гэта?

— Выслоўі такія. Скажам, «каб цябе кумбульсія забіла», ці «каб ты кашулі сваёй баяўся...»

— Авохці... І навошта гэта? Не палюдску.., — адразу пасур'ёзнела Марфа Пятроўна.

А ў мяне стала святлей на душы.

...Ці можна, хто ведае, нанова пасля стольскіх год расстання палюбіць мясціны, дзе нарадзіўся? А што значыць «нанова»? Адзін-адзіны раз — і назаўсёды. Кінута ў жыццядайную глебу насенне дзівоснай расліны. Прабіўся парастак, а яго град знявечыў. Дарма. Не прапала тое насенне, штурхае ўгору новае лязо надзеі. Такая душа наша.

Колькі разоў пабываў я ля кар'ера, паблукаў імшыстымі сцежкамі баравіны, пасядзеў пад разгалістай ігрушынай на далёкім узмежку, і ўсё не мог, не мог расказаць Марфе Пятроўне аб сваім болю-скрусе. Здаецца, вось зараз адкладу ўбок сшытак, а яна суцішыць свой калаўрот і... Не магу. І зноў думаю, з чаго пачаць, як падступіцца. Так я марнаваўся і пакутаваў колькі дзён. А потым прыдумаў.

— Марфа Пятроўна, — звярнуўся я да сваёй гаспадыні.

— Можа, вы паказалі б мне поле, дзе калісьці сеялі тут кок-сагыз...

Яна ў адно імгненне сашчапіла на

сельніцтва БССР. Іх перасяленне ў 20-я гады ажыццяўлялася згодна з іх пажаданнямі і віталася ўрадам Крымскай Татарскай Аўтаномнай рэспублікі.

Такім чынам, беларусізацыя з'яўлялася толькі ўсяго адным са шматлікіх праяўленняў ленінскай нацыянальнай палітыкі. Аднак грунтоўнасць і маштаб змен на Беларусі, іх значэнне для працэсу станаўлення беларускай нацыі выдзяляе беларусізацыю на фоне нацыянальных пераўтварэнняў сярод іншых народаў. Беларусізацыя адрадзіла старажытную мову народа і надала ёй статус дзяржаўнай. Распачаўся працэс станаўлення нацыянальнай свядомасці беларускага народа, які, на жаль, у сувязі з пазнейшымі падзеямі эпохі сталінізму, не завяршыўся да сённяшняга дня. Усё гэта дае цалкам абгрунтаваныя падставы некаторым гісторыкам называць перыяд беларусізацыі «залатым векам» у гісторыі культуры беларускага народа, перыядам, калі быў закладзены фундамент свядомага існавання беларускай нацыі.

Трэцяя характэрная адметнасць працэсу беларусізацыі заключаецца ў складанасцях дакладнага вызначэння яе правядзення. Справа ў тым, што частка членаў беларускага адраджэння, якія далучыліся да бальшавікоў, а таксама тыя, хто спрабаваў быць нейтральным, увесь час намагаліся распачаць беларусізацыю па сваёй ініцыятыве, не чакаючы адпаведных рашэнняў Масквы. Факты гэтыя малавядомыя, і ў беларускай савецкай гістарыяграфіі не закраналіся.

У пачатку 1921 г. на адказных пасадах у савецкім апараце працавалі: У. М. Ігнатоўскі (народны камісар земляробства), З. Х. Жылуновіч (галоўны рэдактар газеты «Савецкая Беларусь»), А. Л. Бурбіс (намеснік народнага камісара зямельных спраў) і некаторыя іншыя. Менавіта гэтыя дзеячы на свой страх і рызыку з'явіліся піянерамі несанкцыяніраванай зверху беларусізацыі. Першыя спробы падобнага роду можна было назіраць яшчэ ў лістападзе 1920 г., калі П. Ільючонак (загадчык беларускага аддзела Наркамата асветы) накіраваў у ЦК КП(б)Б справаздачную запіску, у якой намагаўся абгрунтаваць неабходнасць пераходу навучання ў школах на беларускую мову і адначасовую арганізацыю школ для нацыянальных меншасцей у рэспубліцы. Пад яго кіраўніцтвам у снежні 1920 года пры наркамаце асветы былі адкрыты курсы беларусазнаўства, мэтай якіх была масавая падрыхтоўка настаўнікаў для беларускіх пачатковых школ. Толькі за 1921 год навучанне на гэтых курсах прайшлі 1600 чалавек. Знамянальна, што загадчыкам курсаў быў нядаўні актыўны незалежніцкі дзеяч, чалавек цесна звязаны з палітычнай апазіцыяй Язэп Лёсік, а сярод выкладчыкаў выдзялялася адна з лідэраў партыі беларускіх эсэраў Памела Бадунова.

У канцы 1920 г. лакальную беларусізацыю ў Камісарыяце земляробства пачаў ажыццяўляць і У. Ігнатоўскі. Там былі створаны курсы па вывучэнні беларускай мовы і часткова пераведзена на гэтую мову справаводства. Найбольш далёка ў сваіх беларусізацыйных пачынаннях пайшоў Алесь Бурбіс, які стаў ініцыятарам беларусізацыі ў Наркамаце замежных спраў. Там ужо ў 1921 г. быў праведзены перавод усяго справаводства на беларускую мову.

Падобныя дзеянні, аднак, з'яўляліся хутчэй цікавымі эпізодамі, вынікам уласнай ініцыятывы паасобных людзей, чым мэтанакіраванай суцэльнай палітыкай савецкіх улад на Беларусі. У варунках савецкай сістэмы, якая характарызуецца выключнай кіраўнічай пазіцыяй Камуністычнай партыі, мясцовыя ініцыятывы толькі тады маглі мець поспех, калі яны адпавядалі канкрэтным цэнтральным партыйным дырэктывам. А падобныя абставіны скласіся толькі ў 1924—1925 гг.

Гісторыя правядзення беларусізацыі як ніколі актуальная сёння. Перад беларускім народам стаяць зараз амаль тыя самыя задачы, як і на пачатку 20-х гадоў. Поспех нацыянальнага адраджэння залежыць ад наяўнасці шматлікіх суб'ектыўных і аб'ектыўных фактараў. Добрае разуменне сутнасці гэтых фактараў — аснова паступовага руху наперад беларускага народа на шляху завяршэння працэсу станаўлення нацыянальнай свядомасці нашага народа.

# Анатоль Міхайлавіч ТРУС

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. На 80-м годзе жыцця памёр Анатоль Міхайлавіч Трус — народны артыст БССР, член КПСС з 1947 года, артыст Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.

Анатоль Міхайлавіч Трус нарадзіўся 30 мая 1910 года ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння ў 1930 годзе Віцебскага мастацкага тэхнікума стаў працаваць у тэатры імя Я. Коласа. Больш 50 гадоў быў ён у гэтым тэатральным калектыве. За час сваёй творчай дзейнасці стварыў шэраг выдатных сцэнічных вобразаў. Яркія прыклады рэалістычнага і па-мастацку вобразнага раскрыцця артыстам характараў ёсць у класічным і сучасным рэпертуары. У сцэнічных партрэтах сваіх герояў ён спалучаў псіхалагічную заглыбленасць з выразным пластычным малюнкам, з каларытнай абмалёўкай персанажаў. Акцёр шырокага творчага дыяпазону, Анатоль Міхайлавіч Трус з надзвычайнай цеплынёй, лірызмам і своеасаблівым гумарам выконваў ролі людзей з народа. Сярод



лепшых работ — роля Старца ў п'есе Я. Купалы «Раскіданае гняздо», Мітрыча ва «Уладзе цемры» Л. Талстога, Мацея ў п'есе В. Вольскага «Несцерка», Гусляра ў «Лявонісе» П. Данілава, Крандзялёва ў спектаклі «Таблетку пад язык» А. Макаёнка, Шышкіна ў «Мяшчанах» М. Горкага і іншыя.

Мастацтву А. М. Труса заўсёды была ўласціва жыццёвая пераканаўчасць і грамадзянскасць. Імі глыбока прасякнуты такія выдатныя работы акцёра, як вобраз У. І. Леніна ў пастаноўках «Святло з Усходу» П. Глебкі, «Вечная крыніца» Д. Зорына, «Імем рэвалюцыі» М. Шатрова, а таксама ролі Ліра ў п'есе У. Шэкспіра «Кароль Лір», Ляпкіна-Цяпкіна ў «Рэвізоры» М. Гогаля.

Партыя і ўрад высока ацанілі дзейнасць А. М. Труса. Яму прысвоена ганаровае званне народнага артыста БССР, ён адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі.

Чалавек вялікай душэўнай энергіі і цеплыні, сціпласці, Анатоль Міхайлавіч Трус усё сваё жыццё аддаў служэнню беларускаму тэатральнаму мастацтву, сваёй Бацькаўшчыне.

Вобраз выдатнага акцёра, чулага чалавека назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**В. А. Пячэннікаў, Н. М. Мазай, У. В. Грыгор'еў, У. П. Кулакоў, І. А. Навумчык, Я. К. Вайтовіч, А. І. Образаў, М. М. Яроменка, Г. Б. Асвяцінскі, З. І. Канапелька, Т. А. Кокштыс, У. А. Куляшоў, В. Я. Мазынскі, С. М. Станюта, З. Ф. Стома, Б. І. Сяўко, Ф. І. Шмакаў, Я. П. Шыпіла.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

## ЗАМАХ НА ГІСТАРЫЧНУЮ МЯСЦІНУ

**Імя камуніста выдатнага вучонага, старшыні Беларускай сялянска-рабочай грамады Браніслава Адамавіча Тарашкевіча вядома шырокаму чытачу не толькі нашай рэспубліцы, але далёка за яе межамі.**

**Па Рыжскім дагаворы, які быў падпісаны 18 сакавіка 1921 года, Заходняя Беларусь, у тым ліку і тэрыторыя былога Радашковіцкага павета, аказалася пад панскай Польшчай. У тыя змрочныя часы фашысцкага кіравання Пілсудскім краінай, народ не скарыўся існуючаму ладу. На чале вызваленчага руху стаяла Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Каб узмацніць свой уплыў на сялянскія масы і выканаць пастанову III Камінтэрна аб спалучэнні нелегальнай і легальнай работы, камуністы прымаюць рашэнне аб стварэнні Беларускай сялянска-рабочай грамады. Б. Тарашкевіч становіцца старшынёй грамады, а Сымон Рак-Міхайлоўскі намеснікам. Асабліва былі актыўнымі гурткі БСРГ у былым Радашковіцкім павеце. Гарачымі кропкамі дзейнасці легальнай арганізацыі лічыліся грамадаўскія гурткі ў Сычэвічах, Максімаўцы, Пятроўшчыне, Асаўцах, Пажарышчах, Свечках. А беларуская гімназія ў Радашковічах, як гаварылі ў той час польскія паліцыянты, «была сапраўднай школай упаўнаважаных асоб БСРГ». З 1923 па 1931 год у Радашковічах, дзе зараз будынкі старой бальніцы, жыў і працаваў Б. Тарашкевіч. Пяць вёрст адгэтуль, у вёсцы Максімаўка, нарадзіўся і вырас С. Рак-Міхайлоўскі. Не раз праводзіліся розныя нарады штаба грамадаўцаў у мястэчку, сюды прыязджалі беларускія паслы польскага сейма. Актыўным правадніком ідэй грамады з'яўляўся сенатар, абаронца абяздоленых, рэдактар Якуба Коласа і Янкі Купалы ў газеце «Наша Ніва» А. М. Уласаў. А. Уласаў адзін з арганізатараў гімназіі ў Радашковічах, рэдактар часопісаў «Сані» і «Лучынкі». У Радашковіцкай гімназіі вучыўся адзін час Максім Танк. Аднак мясцовыя ўлады адмовілі прапанове раённай газеце «Святло камунізму» стварыць дом міласэрнасці на базе старой бальніцы.**

**Ці не варта прыслухацца да голасу жонкі Б. Тарашкевіча, маці партызана Веры Андрэеўны, якая ў адным з лістоў у высокія інстанцыі пераканаўча тлумачыла:**

**«Лёс будынкаў былой бальніцы яшчэ дакладна не вядомы. Звяртаюся да Вас з просьбай: стварыць у доме № 16 і каля яго мемарыяльны куток-музей Браніслава Тарашкевіча.**

**Тут збіраліся вядомыя рэвалюцыйныя дзеячы, мастакі, пісьменнікі — Рак-Міхайлоўскі, Дварчанін, Гаўрылік, Драздовіч, настаўнікі і вучні Радашковіцкай беларускай гімназіі, створанай старым рэвалюцыянерам і нашым земляком Аляксандрам Уласавым. Ён таксама прымаў актыўны ўдзел у сходках пад ліпамі...».**

**Няўжо мы загубім яшчэ адну гістарычную мясціну?**

**Сымон БЕЛЫ.**

грудзях рукі, не то войкнула, не то ўздыхнула так, а потым кіўком галавы паказала на партрэт вайсковага чалавека на сцяне і суцішана сказала:

— Вось мой муж, Арцёмка...

І раптам сумелася, правяла даланёй па шчацэ, папраўіла ражок хусткі...

— Чаму ж не паказаць, пакажу.

Мы прайшлі Каменны ручай, берагі якога густа параслі маладым алешнікам ды вербалозам, і выйшлі на даволі вялікае поле, акаймаванае тымі ж хмызнякамі, купкай старых таполяў.

— Вось мы і прыйшлі...

Марфа Пятроўна ўвайшла ў высокае рэдкаватае жыта і, каб заняць рукі, пачала вырываць цёмна-зялёныя сцяблы ўчэпістага асоту. А мяне прывабіў светла-шэры, з вострымі зазубрынамі валун на ўскрайку, і я падышоў да яго, прысеў на кукішкі, паклаў на халодную няроўную паверхню далоні. Заплюшчыў вочы—і здалося, што пад імі, далонямі, бруіцца цяжкая, глыбокая плынь.

Марфа Пятроўна нібыта і забыла пра мяне, захапілася сваёй прывычнай работай. А можа, гэта наўмысна, каб не гаварыць, не ўспамінаць...

— Марфа Пятроўна, — не хапіла больш сіл, — я — сын Васіля Пацэя, таго самага старшыні.

Яна адкінула ўбок каліва, прывычна выцерла аб фартух рукі, падышла да мяне і нясмела дакранулася да плечука.

— Андрэйка, Васілёў Андрэйка. Выжыў бацька, здужаў...

Разгублена памаўчала.

— А мой вось не змог. Прапаў.

— Прыехаў я павініцца, цётка Марфа. За бацьку...

— Андрэйка Васілёў... — Не чула, не хацела мяне слухаць Марфа Пятроўна.

Гэта здарылася ў пару, калі мужчыны насілі яшчэ замест паліто выцвілыя, падсмаленыя ля вогнішчаў шынялі. Бацьку майго, Васіля Палікарпавіча Пацэя, выбралі тым годам калгасным старшынёй. І прыслалі яму з раёна маладога бухгалтара Арцёма Кулакова, які толькі што справіў вяселле з чарнявай усмешлівай Марфай. Арцём прыйшоў з вайны, як казалі тады, з пустым рукавом, наездзіўся па шпіталях, напакутаваўся — дужа цяжка загойвалася рана. І калі хлопец станавіўся на ўлік у райкоме, там паспагадалі, накіравалі на лягчэйшую работу.

Была горкая, гаротная вясна.

З райцэнтра прыехаў на падводзе ўпаўнаважаны і прывёз некалькі мяхоў дзіўнага, невядомага насення. А хутка калгаснікі вучыліся вымаўляць чужое, мулкае слова «кок-сагыз». Ніхто так і не мог уцяміць, як гэта з расліны можна выраблаць гуму.

Кок-сагыз, як умелі, пасеялі на добрым увільготненым палетку за Каменным ручаём. І бацька з новым сваім сябрам-памочнікам Арцёмам амаль штодзень прыходзілі сюды — разгортвалі зямлю, шукалі зубкі парасткаў, а калі знаходзілі, спрачаліся — ці той.

Кок-сагыз не ўзышоў і праз тыдзень, і праз два. А калі мінуў месяц, мужчыны пусцілі на поле плугі, спляжылі пустазелле, пабаранавалі глебу і пасеялі канюшыну. І тады маўклівы наш сусед Федзечка подбегам падаўся ў райцэнтр. Бацька адразу ўчуў нядобрае. Той жа ноччу ён сабраў свой рэчмяшок і развітаўся з маці.

І вось мне не даюць спакою пытанні: чаму ты, бацька, не зайшоў за Арцёмам, чаму не папярэдзіў? Чаму збаяўся, здрадзіў, чаму падумаў толькі пра сябе?

...Назаўтра апоўначы за Арцёмам Кулаковым прыехаў «чорны воран». Яго ўзнялі з ложка, і Марфа, даўка глытаючы слёзы, дапамагала мужу апранаць гімнасцёрку, пакуль ён даставаў з шафы дакументы, узялася немаведама для чаго ваксіць боты.

Арцём зашпіліў на гузік нагрудную кішэню, у якую паклаў ваенны білет і ордэнскія кніжкі і пачаў запіхваць пад рэмень пусты рукаў гімнасцёркі. Яго падштурхнуў у спіну маладзенькі міліцыянер. Марфе забаранілі выходзіць з хаты.

Мы зноў сядзім за прывычным заняткам: перада мной сшытак, які ўжо дзень разгорнуты на адной і той жа старонцы. Глуха грукоча і грукоча калаўрот. І раптам ірвецца ў руках Марфы Пятроўны шэрая суровая нітка. Мы глядзім і глядзім адзін на аднаго.

А потым я расказваю, як амаль чатыры гады, пакуль бацька хаваўся, блукаў па свеце, мы жылі з маці ў дзеда ў Задорах, як, нарэшце, пераехалі да яго ў Кохтла-Ярве і потым вярнуліся. Горкі, горкі ўспамін. Вясковыя хлапчукі-равеснікі хапалі за рукаў: «Ну скажы, скажы што-небудзь па-нянашаму...» І я, каб патрапіць, скарыстоўваў свой слабы запас эстонскай. Яны ад смеху хапаліся за жываты, а калі адыходзілі, прасілі: «Яшчэ, яшчэ. Не ўпарціся. Інакш сябраваць не будзем...» Горкі, горкі ўспамін. Але хіба можна яго параўнаць з тым, што давялося перажыць Марфе Пятроўне, што балючай стрэмкай засела ў яе памяці?

...Той ноччу, праз якую гадзіну ў акно зноў пагрукалі — і сэрца яе правалілася ў бездань. Марфа зняла зашчапку і ўбачыла на парозе Віктара Гуйдо, сярэдняга веку мужчыну, які жыў на ўскрайку Зарэчча. Калі зайшлі ў хату, Марфа і не заўважыла, што стаіць перад ім у споднім, так і прысела на ўслончык і слухала, слухала, слухала...

«Чорны воран» праваліўся заднімі коламі на крынічнай мясціне ля хаты Гуйдо. Натужна выў на ўсё наваколле рухавік, а потым стрэліў смярдзючым газам і заглух. Шафёр хуценька аббег бліжэйшыя хаты, сабраў мужчын. І калі яны падышлі, Арцём пазнаў галасы аднавяскоўцаў, закрычаў ім:

— Хлопцы, перадайце Марфе—няхай не чакае, няхай выходзіць замуж, сына нам народзіць...

Толькі і паспеў. У будцы канваіры раптам па-заліхвацку засвісталі, заляпалі па металічнай абшыўцы, а шафёр загадаў хутчэй круціць завадную ручку ды выпіхваць з ямінЫ яго жалобную карэту.

— А ведаеш, Андрэйка, — звярнулася да мяне Марфа Пятроўна, — ён так і сказаў: «...нам сына». Я перапытвала ў Віктара...

У Зарэччы я пражыў амаль два тыдні. Дапамагаў па гаспадарцы і запісваў, запісваў. Вядома, не праклёны, а ўсё, што расказвала Марфа Пятроўна. І калі развіталіся, яна ціха сказала:

— Андрэйка, а я буду чакаць ад вас вестачкі. Не пакідайце мяне адну.

Сёння споўніўся трэці год, як не стала Марфы Пятроўны. А мне ўсё роўна часам карціць узяць паперу і ручку, каб напісаць па знаёмаму адрасу, у Зарэчча. І ад гэтага жадання, якое нельга спраўдзіць, на душы робіцца яшчэ цяжэй.

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Аляксандра ГУТКОВІЧА, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

